# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkaušćyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 15-16 (451-452) — Нядзеля, 19 красавіка 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


## У няласцы Масквы

У газэце «Советская Белоруссия» з 26 сакавіка г. г. было зьмешчана інфармацыйнае паведамленьне аб пленуме Цэнтральнага Камітэту ЦК Беларусі, які адбыўся 24-25 сакавіка. Пленум разглядзеў два пытаньні: аб палепшаньні працы з кадрамі й мерапрыемствы для ажыццяўленьня пастановаў сьнежаньскага (1958 г.) пленуму ЦК КПСС ды выкананьня сацыялістычных забавязаньняў, якія прынялі калгасы й саўгасы рэспублікі на 1959 год.

Першы даклад зрабіў сакратар ЦК КПБ Г. Кісялёў. У пачатку свайго дакладу Кісялёў адзначыў, што працоўныя Беларусі шырока разгортваюць сацыялістычнае спаборніцтва дзеля ажыццяўленьня «вялізарнай праграмы будаўніцтва камунізму». Ён пахваліўся, што кіраўніцтвам КП Беларусі апошнімі часамі было шмат зроблена для падрыхтоўкі кадраў. Амаль усе сакратары партыі й старшыні аблвыканкомаў, паводля Кісялёва, а навет сакратары райкомаў і гаркомаў на 91 працэнт маюць вышэйшую асьвету. Праўда, ён да людзей з вышэйшай асьветай залічыў і тых, што закончылі партыйныя школы.

Паводля даўно ўжо ўстаноўленага парадку, пасьля г. зв. станоўчых фактаў і розных дасягненьняў, Кісялёў пералічыў некалькі раёнаў, партыйныя й савецкія кіраўнікі якіх ня маюць здольнасьцяў ажыццяўляць «пляны» будаўніцтва камунізму.

Пасьля дакладу разгарнуліся г. зв. спрэчкі. Удзельнікі пленуму больш за ўсё гаварылі аб недахопах працы ў раёнах. Толькі сакратар Берасьцейскага абкому Машэраў у сваім выступе адзначыў, што Савет міністраў БССР міністэрствы й арганізацыі рэспублікі павінны перабудаваць сваю працу. Так, паводля яго, Савет міністраў БССР мала цікавіцца й не кантралюе, як выконваюцца тыя пастановы, што сам выносіць, слаба кіруе дзяржаўным апаратам, каб удачна праводзіць у жыцьцё пастановы партыі і ўраду.

Даклад Кісялёва й выступы ўдзельнікаў пленуму былі зьмешчаны із значным скарочаньнем, і зь іх фактычна ня відаць было, каб гэты пленум адрозьніваўся чым-небудзь ад папярэдніх пленумаў. Толькі ў перадавіцы «Советской Белоруссии» з 27 скавіка, прысьвечанай пленуму, неспадзявана было адзначана, што на пленуме войстра крытыкавалася праца Дзяржпляну БССР, саўнаргасу ды іншых міністэрстваў і ўстановаў за буйныя недахопы ў працы з кадрамі. «Паважныя заўвагі былі выказаны і ў адрас Савету міністраў БССР», — адзначана ў перадавым артыкуле.

Аднак справа выглядае куды больш паважна, чымся гэта можна было-б судзіць паводля матар'ялаў, зьмешчаных у менскіх газэтах. У «Праўде» з 30 сакавіка г. г. быў зьмешчаны артыкул «Павышаць адказнасьць кадраў у змаганьні за ажыцьцяўленьні пастановаў партыі (З пленуму ЦК КП Беларусі)». У гэтым артыкуле карэспандэнты «Праўды» А. Зенчанка й І. Новік паведамляюць, што на пленуме ЦК адзначалася, што Савет міністраў БССР ня выяўляе ініцыятывы ў «вырашэньні насьпеўшых пытаньняў». Віна за гэта ўскладаецца на старшыню Савета міністраў Аўхімовіча й ягоных заступнікаў Клімава, Золава й Каменскага. На пленуме прыводзіліся прыклады дрэннае працы старшыні Дзяржпляну Малініна. Шмат гутарак было аб недахопах працы міністэрства сельскае гаспадаркі й Луцэнкі й Шаўрова, якія, быццам, дапусьцілі буйныя памылкі ў падборы й падрыхтоўцы кадраў.

Няма ніякага сумлеву, што пасьля ўсяго гэтага будуць зроблены гэтак званыя арганізацыйныя высновы. Тамусяму прыдзецца расстацца з высокімі пасадамі. Шмат хто задумаецца, як-бы ўтрымацца на паверхні. Чыстка пройдзе зьверху й да самага нізу. Ня відаць яшчэ пакуль-што, пад якім выглядам яна будзе праводзіцца на Беларусі. Магчыма пад выглядам недастатковай настойлівасьці й заўзятасьці, а галоўна адсутнасьці сьляпога захаплення «надзвычайнай праграмай» будаўніцтва камунізму ў бягучай сямігодцы. Магчыма старшыня Савету міністраў БССР Аўхімовіч і старшыня Дзяржпляну панясуць кару, што яны мелі сьмеласьць гаварыць аб недастатковасьці фінансавых сяродкаў Масквой для важных аб'ектаў будаўніцтва ў БССР. У вадным няма сумлеву, што частка кіраўнікоў БССР, трапіўшая ў няласку Масквы, ня глядзячы на атрыманыя ў мінулым годзе ўзнагароды, недастаткова праяўлялі ўгодлівасьці Хрушчову.

**В. Б.**

Як даведваемся ў вапошні момант, Аўхімовіч ужо звольнены із свайго становішча Старшыні Савету міністраў, а на яго месца назначаны Ц. Я. Кісялёў.

**Рэд.**

## Цяпер Тыбэт

І вось ізноў сьвет зьяўляецца бязьдзейным сьветкам чарговага камуністычнага злачынства й гвалту. Гэтым разам трагэдыя разыгрываецца ў далёкім і мала ведамым Тыбэце. Праўда, няшмат мы ведаем аб гэтай «страсе сьвету», якназываюць паложаны на Гімаляях Тыбэт, бо навет дакладна ня ведама колькасьці ягонага насельніцтва. Кітайцы падбілі збройнай сілай Тыбэт яшчэ ў 1720 годзе, аднак гэты край карыстаўся шырокай аўтаноміяй і ўлада Пэкіну была хутчэй намінальнай чымся фактычнай. Імкнучыся да захопу ўлады ў Кітаі, Мао Тсэ-тунг праклямаваў правы Тыбэту да поўнай незалежнасьці, калі ён гэтага зажадае. Рэч зразумелая, захапіўшы ўладу — як праўдзівы камуністычны правадыр — Мао забыўся аб сваім забавязаньні, больш таго — паступова пачаў пасягаць на аўтаномію Тыбэту. Зварот тыбэцкага ўраду да Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў ня даў ніякіх вынікаў: ньюёрская гаварыльня сушыла галовы, як выблытацца з карэйскай вайны, а тут яшчэ нейкі Тыбэт...

Тыбэтцам не заставалася нічога іншага, як скапітуляваць. Аднак і Мао яшчэ тады ня чуўся дастаткова моцным, дык, каб «захаваць твар», у падпісанай у 1951-м годзе ўмове з тыбэцкім урадам, ён забавязаўся шанаваць аўтаномію Тыбэту, не зьмяняць ягонага рэлігійнага ладу й не зьменшаць рэлігійнай і палітычнай улады Даляй Лямы.

Мао, як прававерны камуністычны кіраўнік і ідэялёг, рэч зразумелая, ня меў намеру выконваць і гэтыя забавязаньні.

Як ведама, Масква мае заўсёды ў запасе сваіх мар'янэтак — урадавы гарнітур для кажнай яшчэ вольнай краіны — такіх ульбрыхтаў, берутаў, готвальдаў і іншых, якія цярпліва чакаюць на свой час. За гэтым прыкладам Масквы пайшоў Пэкін і таксама гадуе мар'янэтак — урады для розных азіяцкіх краінаў. І вось адзін зь іх дачакаўся свайго часу. Панчэн Ляма, з паходжаньня Кітаец, пасьля ўцёкаў Даляй Лямы ў Індыю, на загад Пэкіну пераняў уладу ў Тыбэце, а Кітайцы пачалі жорстка распраўляцца з насельніцтвам.

Можна спадзявацца, што тыбэцкае паўстаньне яшчэ нейкі час будзе працягвацца ў гарыстых раёнах, аднак нельга мець ніякіх ілюзіяў што да ягонага заканчэньня. Чырвоны кітайскі дракон праглыне сваю ахвяру.

Ніхто не паможа гэройскім тыбэцкім змагаром за свабоду, як ніхто не памог Вугорцам у 1956-м годзе. Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў мае выгоднае тлумачэньне, што ні камуністычны Кітай, ні Тыбэт не належаць да гэтай арганізацыі й таму няма падставы да інтэрвэнцыі ў гэтым канфлікце. Ўсе выказваюць сымпатыі й спачуваньні тыбэцкім змагаром, але гэтым і канчаецца. Такім чынам, сярод прыяцеляў, пад акампаньямэнт іхных ахаў і охаў, сабакі зайца зьелі.

Вельмі ў няпрыемным палажэньні апынуўся Нэру — гэты вялікі прыяцель камуністычнага Кітаю, які ўжо 10 год з маньяцкай упорыстасьцяй дамагаецца прызнаньня ўраду Мао, адданьня яму Фармозы й прыняцьця ў АЗН. Нэру кажнага пераконваў, што камуністычны Кітай — найбольш міралюбная дзяржава, проста пікасаўскі галубок, а тут раптам — такая прыкрасьць!.. Чырвоны дракон збудзіўся і паказаў зьвярынныя зубы. Тымбольш, што гэтыя зубы апынуліся ў небясьпечнай блізіні да самога Нэру. Вось ён цяпер сушыць мазгі, як пагадзіць з сабой праблемы бясьпекі Індыі, прыязныя пачуцьці да Мао й пагляды сваёй грамадзкасьці на выпадкі ў Тыбэце. Сам Нэру прызнаўся, што гэта вельмі-ж нялёгкае заданьне.

Шмат хто пацяшаецца, што тыбэцкая трагэдыя адчыніць вочы тым, хто да гэтага часу ня бачыў агрэсыўнасьці камунізму.

Вельмі сумлеўна.

Калі нехта 41 год — ад падбою Беларусі да падбою Тыбэту — ня бачыў нязьлічаных актаў бальшавіцкай агрэсіі — таму ніхто й нічога не паможа.

Як-жа доўга яшчэ трэба чакаць на тое, калі сьвет апамятаецца і ўрэшце скажа агрэсарам: «Стой, ні кроку далей!»

І каб гэта было незапозна...

**пс**

## І ў Туркестане „нацыяналістычныя ўхілы“

На працягу апошніх некалькіх месяцаў у розных рэспубліках Савецкага Саюзу здарыліся падзеі, на якія варта зьвярнуць увагу й нашым чытачом.

Увага палітычных назіральнікаў была апошнім часам прыкаваная перш за ўсё да падрыхтоўкі, прабегу й пастановаў XXI-га зьезду КПСС. Гэты зьезд прыцьміў сабой здарэньні немалой вагі — здарэньні, якія хоць і камэнтаваліся ў заходняй прэсе, але ўсё-ж належнага водгуку не атрымалі.

21-га студзеня гэтага году радыё Ашхабат паведаміла, што Вярхоўны савет Туркмэнскай ССР «вызваліў Д. Д. Караева ад абавязкаў старшыні Савету міністраў Туркмэнскай ССР ў сувязі з выбарам яго на становішча першага сакратара ЦК камуністычнай партыі Туркмэніі». Караеў заняў месца Сухана Бабаева, які — як было паведамлена ў туркмэнскай савецкай прэсе ўжо 16-га сьнежаня мінулага году — быў зьняты з становішча першага сакратара ЦК КП Туркмэніі «за вялікія памылкі, дапушчаныя ў працы».

Можна было-б падумаць — нічога асаблівага: яшчэ адна пeратасоўка на рэспубліканскім узроўні — пeратасоўка, якія ў СССР здараюцца ня рэдка. Аднак вельмі хутка выявілася, што справа тут не ў банальнай пeратасоўцы, а ў самай запраўднай чыстцы, якая закранула ня толькі першага сакратара ЦК КП Туркмэніі, але й іншых. Другой паводля важнасьці асобай, якую закранула гэтая чыстка, была сакратар ЦК кампартыі Туркмэніі Дурдыева — не гаворачы ўжо аб партыйных апаратчыках на абласным узроўні.

Пастанова зьняць Бабаева із становішча першага сакратара была прынятая на шостым пленуме ЦК камуністычнай партыі Туркмэніі, які пачаўся 8-га сьнежаня мінулага году й трываў некалькі дзён. І вось тут вельмі важны факт: ня гледзячы на тое, што ў савецкай прэсе аб гэтым ня было згадана ні словам, ёсьць важкія доказы, што на гэтым пленуме была прысутная дэлегацыя прэзыдыюму ЦК КПСС уключна з Хрушчовам, Кірычэнкам, Мухітдзінавам, а таксама й міністрам абароны маршалам Маліноўскім. Ад 8-га да 12-га сьнежаня вышэйпрыгаданыя сябры прэзыдыюму ЦК КПСС сьвяцілі сваёй адсутнасьцяй у Маскве, хоць там за гэты час адбыўся цэлы шэраг немалаважных рэчаў, як сьвяткаваньне саракагодзьдзя вайсковай акадэміі імя Фрунзэ (адным зь першых выпусьнікоў якое, дарэчы, зьяўляецца маршал Маліноўскі), прыезд альбанскай урадавай і партыйнай дэлегацыі, прыезд высокапастаўленых прадстаўнікоў ангельскай лейбарысцкай партыі, і. г. д. Доказам асабістай інтэрвэнцыі сяброў прэзыдыюму ЦК КПСС зьяўляецца й прамова новага першага сакратара ЦК кампартыі Туркмэніі Караева на 15-ым зьезьдзе туркмэнскай кампартыі, які адбыўся 19-20 студзеня сёлета. У сваёй прамове Караеў выказаў «глыбокую ўдзячнасьць ленінскаму цэнтральнаму камітэту КПСС, прэзыдыюму ЦК КПСС і асабіста таварышу Хрушчову за неацэнную дапамогу туркмэнскай партыйнай арганізацыі пры выкрыцьці непартыйных дзеяньняў Бабаева й Дурдыевай...»

Малое адхіленьне: у сваёй прамове Караеў гаварыў таксама, што «у сувязі з сыгналамі няпрыемнага стану рэчаў у бюро ЦК камуністычнай партыі Туркмэніі, ЦК КПСС уважна дасьледваў усе гэтыя матар'ялы». Было-б лягічным думаць, што гэтыя «матар'ялы» былі сабраныя й высланыя «по назначенію» мясцовым вокам Масквы — старшынём Камітэту дзяржаўнай бясьпекі Баньнікавам (Расеец). Гэта пацьвярджаецца тым, што неўзабаве Баньнікаў быў уведзены ў сябры бюро кампартыі Туркмэніі. Але тут цікавае супадзеньне:

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

## Да пытаньня „дзяржаўнага разьмежаваньня“

Выступаючы 7 сакавіка сёлета перад «канфэрэнцыяй працоўных« у Ляйпцыгу, Хрушчоў, кранаючыся нямецкіх усходніх межаў, прысьвяціў таксама крыху ўвагі польска-беларускім і польска-ўкраінскім межам і наагул савецкаму прынцыпу разьмежаваньня між народамі. У першым выпадку ён выказаў заўвагу, што Беларусы й Украінцы маглі-б таксама не пагадзіцца із сваімі заходнімі межамі, бо яны, калі навет выходзіць зь ведамае лініі Кэрзона, адразаюць значную частку беларускай і ўкраінскай тэрыторыі да Польшчы.

У другім выпадку Хрушчоў асьветчыў, што пры «сацыялізьме» нацыянальныя й дзяржаўныя межы не павінны іграць вялікае ролі, бо тут справа йдзе наагул аб адміраньні дзяржаўных межаў. Гэта відаць на прыкладзе СССР, — працягваў Хрушчоў, — дзе пытаньне нацыянальнага й дзяржаўнага разьмежаваньня ўжо адпала, і адпала таму, што савецкія народы, адносячыся адначасна зь вялікай пашанай да гістарычна вытвараных нацыянальных межаў між імі, занятыя іншай куды паважнейшай справай — справай збудаваньня новага «камуністычнага» грамадзтва й новага жыцьця. Пайменна гэта іх аб'ядноўвае й вызначае іхны палітычны шлях, а ня нейкія там нацыяналістычныя разважаньні пра дзяржаўныя межы.

Але, зазначаў далей Хрушчоў, ува ўмовах капіталістычнага сьвету трэба ўсімі сіламі падтрымоўваць нацыянальную сувэраннасьць слабейшых краінаў, каб ня даць гэтым самым магчымасьці «імпэрыялістым» замацавацца на іхнай тэрыторыі. Трэба заўсёды і усюды перасякаць «імпэрыялістычныя імкненьні» зьнесьці пагранічныя бар'еры — гэта зьяўляецца адкрытым пацягам да зьнішчэньня нацыянальнай незалежнасьці народаў.

Пакідаючы пакуль што ў баку падобную эгаістычную дыялектыку Хрушчова, пярэйдзем да савецкага разьмежаваньня Беларусі. Гэта дасьць магчымасьць лепш зразумець брутальнасьць савецкае палітыкі ў нацыянальным разьмежаваньні, запраўдную сутнасьць «савецкага адміраньня дзяржаўных межаў» і наагул пакажа на савецкі прынцып зьнясеньня дзяржаўных межаў пры так званым паступовым пераходзе да «камуністычнага грамадзтва» й уладжаньні «адзінага безьдзяржаўнага сусьветнага камуністычнага грамадзтва». А гэты прынцып асноўваецца на сіле й толькі на сіле — на праве мацнейшага, аб чым, між іншым, гаварыў у згаданай прамове й Хрушчоў, калі ён сказаў, навязваючы да палітыкі Адэнаўэра што да нямецкіх усходніх межаў, што дзяржаўныя межы ўзьнікаюць у выніку войнаў і што гэтыя межы ня могуць зьмяніць ніякія мірныя канфэрэнцыі.

**«Гістарычна вытвараныя»** этнаграфічныя межы беларускага народу далёка не адказваюць сучасным дзяржаўным межам БССР. Дзяржаўныя пры старой беларускай дзяржаве Вялікім Княстве Літоўскім беларускія межы ўключалі ў сябе Берасьцейшчыну, Беласточчыну, Аўгустоўшчыну, Сувальшчыну, Віленшчыну, Полаччыну ўключна зь Вялікімі Лукамі, Віцебшчыну з Усьвятам і Вяліжам, Смаленшчыну ўключна з Ржэвам і Вязьмай, Браншчыну, Чарнігаўшчыну й Піншчыну. Праўда, у выніку працяглых войнаў з Маскоўшчынай і змаганьня з польскай экспансіяй былі страчаныя ў XVI-XVII стагодзьдзях беларускае Падляшша (цяперашняя заходняя Беласточчына), Смаленшчына, Браншчына й Чарнігаўшчына. Аднак гэта зусім не азначае, што Беларусы гэтым самым страцілі на іх свае правы й што на гэтай страчанай тэрыторыі абавязкова павінен быў вымерці беларускі элемэнт — народны, моўны ці культурны. Гэтыя землі й надалей застаюцца беларускай этнаграфічнай тэрыторыяй, аб чым, між іншым, сьветчыць і дыялекталягічная карта савецкага навукоўца праф. П. С. Кузьняцова, залучаная да ягонай працы «Русская диялектология», выданьня 1954 году. Значыцца, тут ужо пярэчыць Хрушчоў сваёй «савецкай нацыянальнай палітыцы», мянуючы тэрытарыяльны абрэзак, якім ёсьць сяньняшняя БССР, савецкім ушанаваньнем «гістарычна вытвараных нацыянальных межаў» кажнага із народаў СССР.

У «Бацькаўшчыне» ўжо шмат разоў закраналася савецкая тэрытарыяльная палітыка ў дачыненьні да Беларусі, але, у сувязі з гэтым асьветчаньнем Хрушчова, варта будзе затрымацца крыху на гэтым пытаньні паўторна.

Будучы змушанымі стварыць БССР на пераломе 1918-1919 гадоў, бальшавікі былі згадзіліся з думкай улучыць у гэтую новую савецкую рэспубліку бальшыню беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, уключаючы ў яе Беласточчыну, Берасьцейшчыну, Меншчыну, Піншчыну, Полаччыну, Віцебшчыну, Магілеў-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Парушаймася пра свае справы

Адзержыўшы № 11-12 (447-448) «Бацькаўшчыны», у каторым надрукаваны артыкул Юркі Віцьбіча «У вабарону маіх суседзяў», я найперш пачаў чытаць гэты артыкул. Ю. Віцьбіча-ж я знаю ня толькі як беларускага пісьменьніка, але й як аўтара артыкулаў у «Бацькаўшчыне» і ў Нюёрскім «Новым русскім слове», у каторым ён удала бароніць беларускую справу ад русыфікатараў. Дзеля таго я спадзяваўся, што ў вартыкуле Віцьбічавым будзе штось пра патрэбы беларускае эміграцыі, а ня ўсё тое ўстанічнае пра падзеі з камуністычнага пекла, на каторыя беларускія эмігранты ня маюць уплыву.

Прачытаўшы, адылі, колькі радкоў, я чыста расчараваўся. Аказваецца, аўтар не знайшоў нічога патрабнейшага, як заняцца справаю амэрыканскіх Нэграў, тых Нэграў, каторыя ляпей маюцца за беларускіх эмігрантаў у тэй-жа Амэрыцы і сто, калі ня тысяча разоў ляпей маюцца за беларускі народ у паняволенай Беларусі. Ня толькі Беларусы ў Бацькаўшчыне галадуюць фізычна, але й Беларусы ў цэласьці — з тэй-жа ласкі маскоўскай — задыхаюцца ад голаду культурнага; гэты другі голад могуць часткава аддаліць беларускія эміграпты, калі будуць пра гэта руліцца. Але й справы самых беларускіх эмігрантаў ляжаць у вялікай меры дзірваном. Нашая эміграцыя памалу ( а дзеці й моладзь яе вельмі борзда) грэзьне ў асыміляцыі. Прывяду адзін прыклад. Адзін Беларус із новае эміграцыі напісаў у рэдакцыю аднаго беларускага часапісу, што ў Дэтройце (ён там жыве) ёсьць каля паўсотні моладзі сярод новае беларускае эміграцыі. Яны ня ўмеюць чытаць пабеларуску, дарма што іхныя бацькі сьведамыя Беларусы» (добрае сьведам'е!). Каб паправіць ліха, гэты «разумнік» радзіць выдаваць часапіс па-ангельску, замест таго, каб навучаць іх чытаць пабеларуску. Зацемлю, што ў Дэтройце жывуць «добрыя людзі» з паміж Беларусаў, яны ня крытыкуюць іншых Беларусаў, ня сьпіраюцца й ня вадзяцца міжсобку, ня твораць «другое» і пагатове ня думаюць тварыць «трэйцяе сілы».

І вось у гэтым самым часе беларускі публіцысты заняўся справаю Нэграў, чаго ані не патрабуюць ад яго ані Беларусы, ані Амэрыка, ані самі Нэгры.

Калі, адылі, я дачытаў да месца, што адзін Нэгра ўратаваў аўтара артыкулу ад абязьвечаньня або й сьмерці, дык я тады зразумеў, што тут маем дачыненьне з уласьцівым Беларусам пачуцьцём удзячнасьці. Гэтым пачуцьцёвым мамэнтам і зьясьняюцца ў вартыкуле тыя месцы, дзе Віцьбіч перадаець у вабароне чорных і ў вабвінавачаньню белых.

Мяне ніхто з чорных не ўратаваў і ня ўкрыўдзіў, таксама й я нікога зь іх не ўратаваў і ня ўкрыўдзіў, дый натура мая не пачуцьцёвая, дык думаю, што я магу быць аб'ектыным, пішучы пра амэрыканскіх Нэграў.

Найперш агульна трэба зацеміць, што няправільна робяць тыя, каторыя зьясьняюць некаторую адсталасьць амэрыканскіх Нэграў ад белых тым, што Нэгры ад прывозу іх да Амэрыкі і да 1861—65 гг. былі ў няволі. Па прылучэньню Беларусі да Расеі і аж да вызваленьня ад прыгону ў 1861—70 гг. беларускія сяляне ня былі ў лягчэйшай няволі, чымся амэрыканскія Нэгры. Беларусь-жа была заграблена Расеяй у гэткіх часох: Беласточчына ў 1807 г., Горадзеншчына, Віленшчына й Меншчына 1793—1795 гг., Магілеўшчына й Віцебшчына ў 1772 г., Смаленшчына й Севершчына ў 1667 г., Пскоўшчына, беларускія часьці Цьвершчыны, Калужчыны, Арлоўшчыны й Куршчыны адныя на пачатку 16-га стг., другія ў канцы 15-га стг. Першыя-ж каляністыя да Паўночнае Амэрыкі прыплылі ў 1607 г., а першых чорных нявольнікаў пачалі прывозіць сюды пара дзесяткоў год пасьлей. Гэткім парадкам вялікая часьць беларускіх сялян была ў цяжкой няволі — прыгоне даўжэй за Нэграў. Па вызваленьню-ж ад прыгону беларускія сяляне шмат гарэй меліся за амэрыканскіх Нэграў і з гледзішча праўнага і ўсялякага іншага. Пры гэтым, ані з гледзішча інтэлектуальнага, ані маральнага ў беларускіх сялян ня бачым такой адсталасьці, акую назіраем у часьці амэрыканскіх Нэграў. Значыцца, справа тут не ў няволі, прынамся, не ў ваднэй няволі.

Дзеля прыраўнаньня Нэграў да Беларусаў, Віцьбіч кажа, што «адзін саўтрывэрскі Беларус сьпярша цяжка параніў сваю жонку, швагрыню й цешчу з Амэрыканцаў, а потым пасьля двугадзіннай перастрэлкі з паліцыяй, ...забіў сябе». Прыведзена гэта не як адзіночны прыпадак, бо тады, як вынятак, ён толькі пацьвярджаў-бы агульнае правіла, што ў Беларусаў такія прыпадкі ня бываюць. Не, гэта, відавочна, прыведзена як прыклад. Але прыклад чаго? Прыклады прыводзяць, каб ілюстраваць штось хоць бы троху пашыранае; а тут такога пашыранага ані няма. Дык гэны прыпадак ня можа быць прыкладам. Як прыклад ён прыведзены няправільна. Віцьбіч захапіўся абаронаю сваіх суседзяў, перадаў у гэтай абароне, і ўжыў у даным прыпадку няправільны сяродак, крыўдзячы ім сваіх родзічаў.

Гэны, прыведзены Віцьбічам, прыпадак забіўства й самаўбіўства знаюць саўтрывэрскія й нюбрансьвіцкія Беларусы. Ён варт таго, каб паказаць ягоную прычыну. А яна ў наступным. Беларусы із старое эміграцыі, пераважна каталікі, але нярэдка й праваслаўныя, жаніліся з Палячкамі (запраўднымі, а не з такімі, каторыя сябе за такіх зь нясьведам'я ўважаюць). Старана беларуская была мала, а найчасьцей зусім нацыянальна нясьведамая, яна-ж заглушала ў сябе пачуцьцё нацыянальнай апрычонасьці. Палячка, наадварот, была нацыянальна сьведамая. Як такая, яна ўзгадавала свае дзеці ў непашане й нязычлівасьці да бацькі. Пакуль бацька зарабляў на жонку й на дзеці, ён быў талераваны. Калі-ж, робячы да апошняй старасьці, ён мусіў у канцы перастаць рабіць, тады дачыненьні да яго жонкі й дзяцей рабіліся нягодныя. Не зважаючы на гэта, ён, уміраючы, пакідаў ім сваю цяжка запрацаваную ашчаднасьць. Такіх мешаных беларуска-польскіх радзімаў ёсьць у Задзіночаных Гаспадарствах шмат. Беларуская старана іх проста няшчасная. Да такіх радзімаў і належыла радзіма менаванага забіўцы. Але, як новы эмігрант, гэны Беларус быў болей-меней абцершыся аб беларускі рух і дзеля таго ня мог цярпець. Дык былі зводкі, каторыя й скончыліся трагічна. Менаваны прыпадак можа быць прыкладам толькі таго, што шкодныя Беларусам мешаныя радзімы, асабліва із «старшымі братамі».

Віцьбічу давялося чуць, што беларуская дзяўчына «зьмяніла пляжу, бо на ёй купаліся Нэгрыцянкі». Якая Нэгрыцянкам сталася ад гэтага крыўда? Была-б крыўда тады, калі-б Беларуска прагнала Нэгрыцянкаў.

Якая крыўда ўзноў, што домы у каторым жывуць Нэгры ў Саўт Рывэры, іхныя белыя суседзі завуць «афрыканскім домам»? Завуць так, бо знаюць трохі геаграфію. Мы цешыліся-б, каб домы, дзе жывуць Беларусы, Амэрыканцы звалі дамамі беларускімі; але так не завуць, бо нас ня знаюць.

Віцьбіч піша: «Як паводзілася Нэграм-нявольнікам... нас пазнаёміла Гарыет Бічэр Стоў у сваёй ведамай усяму сьвету кнізе «Хаціна дзядзькі Тамаша». Кніга гэтае аўтаркі ня толькі сьветча пра тое, як паводзілася Нэграм-нявольнікам, але адначасна сьветча й пра тое, якія Амэрыканцы. Расея паняволіла шмат народаў **разам із іхнымі землямі, разбурыла іхныя гаспадарствы**, у тым ліку гаспадарства беларускае. Масам паняволеных Расеяй народаў жылося ня ляпей, чымся Нэграм-нявольнікам, і не знайшлося Расейца, каторы выступіў-бы ў іх абарону, як гэта зрабіла амэрыканская аўтарка. Дый не яна адна. Дзевяць год пасьля ейнай кнігі, наймя ў 1861 г., бальшыня Амэрыканцаў выступіла вайною за вызваленьне Нэграў. І вызваліла іх цаною вялікага праліцьця свае крыві. Расейцы рабілі наадварот. Калі, ў 1863 г., Беларусы з Кастусём Калінаўскім на чале паўсталі супроць Расеі, дык навет расейскі «народнік», паэта Някрасаў, пісаў вершы на чэсьць Мураўёва вешаньніка. 40 год Беларусы перажываюць пекла ў расейска-бальшавіцкім «раю», пекла шмат горшае за даўнейшую няволю Нэграў, а ведама, што ня было-б гэтага «раю» ў Беларусі, калі-б яна ня была пад Расеяй. Не зважаючы на гэта, расейская эміграцыя жадае й далей дзяржаць Беларусь у расейскім ярме, жадае гэтага, хоць ведае, што, і па сьціненьню бальшавізму, «рай», падобны да бальшавіцкага, можа ў Расеі паўтарыцца, як гэта ня раз было ў гісторыі Расеі. Як ведама, такія «раі» заўсёды бываюць шмат цяжшыя нерасейцам, чымся Расейцам, бо гэтыя, і будучы нявольнікамі, пануюць над іншымі паняволенымі Расеяй народамі.

Віцьбіч кажа: «Нам Беларусам — народу паняволенаму, ні ў якім разе ня выпадае апраўдаваць паняволеньне іншых народаў». Ціж Нэгры паняволеныя? Пасьля вызваленьня іх у 1861—1865 гг., яны раўнапраўныя грамадзяне Задзіночаных Гаспадарстваў. Мы Беларусы (Беларусы наагул, а не беларускія эміграпты ў Амэрыцы) можам ім толькі завідаваць.

Віцьбіч добра папраўляе Др. Ст. Станкевіча, кажучы: «Разам із тым мне ніколі не даводзілася бачыць сваіх суседзяў (Нэграў — Б. С.) у лахманох, кажны зь іх мае 2—3 добрых гарнітуры». Запраўды, кажны нармальны Амэрыканец, у тым ліку Нэгры, могуць ня толькі мець па 2—3 добрых гарнітуры, але й маюць магчымасьць адзявацца, як мільянэры, і есьці, як мільянэры. Дык аўтар пярэча сам сабе, кажучы ў дачыненьню да амэрыканскіх Нэграў, што «Галіта ня знае законаў». У Задзіночаных Гаспадарствах галіты няма.

Бандытызм сярод Нэграў бывае ня з прычыны галіты. Прычынаў яго можна шукаць толькі ў іх пахаджэньню і ў іх узгадаваньню. Не бальшыня Нэграў займаецца бандытызмам, але часьць іх займаецца, і зьява гэтая досыць пашыраная. Віцьбіч кажа, што ягоныя суседзі Нэгры не бандыты. Верым, але ёсьць іншыя Нэгры, каторыя займаюцца бандытызмам і зладзействам. Вось у Брукліне (трымільённае места, складае часьць вялікага Нью Ёрку), у раёне Думонт Эвэню, Амбой вул. і іншых цяпер бандытызм і зладзействы пашырыліся. Нэгрскія хлапцы ходзяць па дамох, улазяць праз вокны. Гасподнікі баяцца пакідаць адны гасподы. Але незаўсёды памагае, калі застаешся ў хаце. Такі «госьць» можа ўвайсьці ў гасподу, стэрарызаваць і забраць грошы або дарагую рэч. Звычайна робяць гэта хлапцы, бо амэрыканскае права не прадбача кары на дзеці да васімнаццацёх год. Але ноччу нярэдка выраслы Нэгра ў гэтым раёне зойдзе наперад ідучаму й вымагае ад яго грошы. Не аддасьць — застрэле. А нядаўна Нэгра ўдзень застрэліў у краме крамніка, каторы не сьпяшаўся аддаць яму свае грошы. Гасподнікі з гэтага раёну стараюцца барзьдзей перасяліцца на іншае месца, собсьнікі дамоў сьпяшаюцца іх прадаць. У іншым краю выдалі-б адумысловае права для такога раёну, але Амэрыканцы людзі цярплівыя, выдзержаныя; яны валей будуць цярпець бандытызм, чымся выдаваць неаднолькавае ўсім жыхаром права.

Якія-б ня былі прычыны такога бандытызму, тыя, што ад яго церпяць, ня могуць на яго ня рэагаваць, навет узрушаючы існуючае амэрыканскае права. Дыкжэ страховыя таварыствы вымагаюць вышшай страхоўкі ад небясьпечных прыпадкаў і ад пажару з тых дамоў, у каторых жывуць Нэгры, або навет, калі Нэгры жывуць у дамох суседніх, дарма што права забараняе абходзіцца з Нэграмі гарэй, чымся зь белымі.

Што-ж за дзіва пасьля гэтага, што некаторыя собсьнікі дамоў сьцерагуцца здаваць гасподы Нэграм, дарма што гэта таксама правам забаронена? Але ня ўсе собсьнікі амоў гэтак робяць, іншыя здаюць. Ды, апрача таго, Нэгры маюць поўную магчымасьць мець собскія дамы. Калі каля палавіны беларускіх уцекачоў пакуплялі сабе ўжо дамкі, а пераважная часьць засталых маюць магчымасьць купіць, дык і пагатове могуць гэта зрабіць людзі, што тут радзіліся.

Віцьбіч глуха цьвердзіць, што чорным «перашкаджаюць купляць або будаваць дамы, дзе жывуць белыя». Права дазваляе ім купляць і будаваць дамы ўсюдых. Іншая рэч, што некаторыя собсьнікі дамоў або зямлі з прычыны вышменаваных крымінальных учынкаў некаторых Нэграў, маючы наўвеце сваіх гасподні-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Да пытаньня „дзяржаўнага разьмежаваньня“

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

шчыну, амаль усю Смаленшчыну, частку Чарнігаўшчыны й Віленшчыны. Ня трэба напамінаць, што гэтай «уступцы» садзейнічала сьвежая традыцыя незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, хоць і тут бальшавікі пасьпяшылі адарваць большую частку беларускай Віленшчыны, Дзьвіншчыну, частку Смаленшчыны й Браншчыну.

Аднак не прайшло й месяцу йснаваньня першай БССР у ейных вышэй вызначаных межах, як на так званым Першым Усебеларускім зьезьдзе Саветаў, што адбыўся 2-4 лютага 1919 году, яны прымусілі Беларусаў «дабравольна» зрачыся на карысьць РСФСР Полаччыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Магілеўшчыны й Гомельшчыны. Адначасна яны ліквідуюць таксама й астаткі БССР, творачы так званую супольную Летувіска-Беларускую савецкую рэспубліку на тэрыторыі толькі Меншчыны й Віленшчыны. Як ведама, акт гэты адбыўся 27 лютага таго-ж 1919 году. З правалам апошняга праекту ў выніку здабыцьця незалежнасьці Летувай, бальшавікі катэгарычна адмовіліся вярнуцца да першай БССР. Яны наагул некаторы час марудзілі з думкай тварыць новую БССР ці не. Новая БССР, па ліку трэйцяя, калі ў гэтае зьвяно бальшавіцкіх беларускіх твораў упісаць і ЛітБел, была абвешчаная 31 ліпеня 1920 году, і гэтым разам як-бы на тэрыторыі ўсёй заходняй Беларусі (Полаччына, Віцебшчына, Смаленшчына, Магілеўшчына й Гомельшчына заставаліся, ведама, у складзе РСФСР).

Аднак, гэтае «як-бы» мела шмат выняткаў. Папершае, умовай зь Летувай з 12 ліпеня гэтага-ж 1920 году бальшавікі перадавалі апошняй вялікія абшары чыста беларускай этнаграфічнай тэрыторыі на паўночны-захад ад лініі вусьце Гараднянкі - вусьце Ляшанкі-нёманскі Сьвіслач-Нёман-нёманская Бярэзіна-Іслач-Маладэчна-возера Мядзел - возера Дрысьвяты-рэчка Друйка. Такім чынам Летуве былі перададзеныя ўся Віленшчына зь Вільняй і другія буйнейшыя заходнія беларускія цэнтры, як Аўгустоў, Горадня, Ліда, Ашмяна, Паставы й Браслаў. Праўда, Маладэчна заставалася на «расейскім» баку пагранічча.

Падругое, нязнаным быў і лёс іншых заходніх беларускіх земляў, бо ў часе абвешчаньня трэйцяй БССР за гэтыя землі выменьвалася буйная манэта між бальшавікамі й Палякамі. Справа ў тым, што бальшавікі надта жадалі й Польшчу бачыць у складзе савецкае Расеі, а таму яны тут не пашкадавалі ўзбагаціць гандлёвы рынак за кошт беларускіх земляў. Вось-жа, калі Лёндан, які трымаў бок Палякаў, прапанаваў бальшавіком затрымацца на лініі Кэрзона (гэтая лінія, як ведама, была вызначаная ў канцы 1919 году Найвышэйшай Альянцкай Радай і праходзіла па лініі Нёман-сярэдняе цячэньне Сьвіслачыпункт перасячэньня дарогай з Нарава на Нараўку чыгункі з Гайнаўкі на Сьвіслач-Няміраў-Буг, пакідаючы такім чынам на польскім баку беларускую Сувальшчыну, Аўгустоўшчыну й Беласточчыну), апошнія адкінулі гэту прапанову Лёндану, праўдзівей ноту міністра замежных справаў Вялікабрытаніі Лёрда Кэрзона, прыступаючы да беспасярэдніх перамоваў з Польшчай. У гэтых перамовах бальшавікі прапанавалі Палякам больш выгадныя тэрытарыяльныя канцэсіі за кошт беларускіх земляў, чымся гэта давала ім лінія Кэрзона.

У замен яны патрабавалі ад Палякоў зьменшаньня да мінімуму польскай арміі, зьнясеньня пагранічнай і мытнай кантролі, забароны прадукцыі зброі й г. д. Аднак, у выніку бальшавіцкай паразы пад Варшавай і ў меру пасоўваньня польскай арміі на ўсход, вымаганьні бальшавікоў ставаліся нерэальнымі, і яны былі змушаныя падпісаць 12 кастрычніка часовую мірную ўмову з Польшчай на некарысьць бальшавікоў і, галоўна, на некарысьць Беларусаў, бо паводле гэтае ўмовы да Польшчы пераходзілі вялікія абшары беларускай тэрыторыі, якія далёка на захадзе пакідалі лінію Кэрзона.

Бяз удзелу Беларусаў 18 сакавіка 1921 году ў Рызе была падпісаная мірная ўмова з Польшчай. Беларусь была падзелена між Расеяй і Польшчай.

Тэрытарыяльна трэйцяя БССР заставалася такім чынам маленькім астраўком у цэнтры этнаграфічнай Беларусі, складаючыся із 6 паветаў, таксама абрэзаных часткова Рыскай мяжой, аднэй Менскай губэрні. Яна абыймала цяпер тэрыторыю ў 52 316 квадратных вілямэтраў і налічвала насельніцтва каля 1,5 мільёна чалавек, у той час, як этнаграфічная Беларусь, паводля савецкіх дадзеных («Большая Советская Энциклопедия» вып. I, 1927, т. 5, кал. 352), складала звыш 317 тысяч квадратных кілямэтраў і налічвала ў гэны час каля 12 мільёнаў чалавек. У запраўднасьці тэрыторыя этнаграфічнай Беларусі куды шмат большая і з большай колькасьцю насельніцтва.

(Працяг будзе)

**П. Залужны**

**НАЙВЯЛІКШЫМ ТВАІМ ПРЫЯЦЕЛЯМ НА ЧУЖЫНЕ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ГАЗЭТА «БАЦЬКАЎШЧЫНА». ДЫК ПАДТРЫМАЙ ЯЕ, ЧЫМ МОЖАШ!**

# І ў Туркестане „нацыяналістычныя ўхілы“

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

старшыня ўсесаюзнага Камітэту дзяржаўнай бясьпекі Сероў быў афіцыйна зьняты із свайго становішча ўначы з 8-га на 9-га сьнежаня мінулага году — падчас пленуму ЦК КП Туркмэніі. Да гэтага часу ніхто ня ведае дакладных прычынаў гэтага зьняцьця. Ці ня будзе правільнай гіпатэза некаторых назіральнікаў, што Сероў заплаціў сваім становішчам за тое, што не зьвярнуў сваечасова належнае ўвагі на «трывожныя сыгналы» свайго падначаленага ў Ашхабадзе?

Цяпер-жа найважнейшае і найцікавейшае пытаньне: чым правініліся Бабаеў і Дурдыева? Чым вытлумачыць тое, што дзеля «навядзеньня парадку» была патрэбная асабістая інтэрвэнцыя самога Хрушчова? Варта прыгадаць, што адзіным прэцэдэнтам такое інтэрвэнцыі ў камуністычным блёку — прэцэдэнтам, праўда, няўдалым — было неспадзяванае падарожжа Хрушчова, Мікаяна, Кагановіча, Маршала Жукава й Конева ў Варшаву ў кастрычніку 1956 году дзеля ўціхаміраньня непакорных Палякаў.

Як выяўляецца, прычыны да пэўнай ступені, былі аналягічныя. Савецкая прэса пастаралася прамаўчаць дэталі. Але стае й тых інфармацыяў, якія зьявіліся. Новы першы сакратар ЦК кампартыі Туркмэніі, на 15-ым зьезьдзе кампартыі Туркмэніі, так акрэсьліў «злачынствы» свайго папярэдніка Бабаева й Дурдыевай: яны «пагарджалі бальшавіцкім прынцыпам падбору кадраў... Бабаеў і Дурдыева ставілі на першае месца свае асабістыя, эгаістычныя інтарэсы, і якраз з гэтае прычыны яны падбіралі людзей не паводля іхных палітычных і практычных кваліфікацыяў, а **паводля іхнага зямляцтва...**» (падкр. наша — У. Н.)

Яшчэ ясьней Караеў акрэсьліў гэтыя «злачынствы» на XXI-ым зьезьдзе КПСС:

«Цяперашнія сакратары ЦК камуністычнай партыі Туркмэніі таварышы Бабаеў і Дурдыева груба парушалі ленінскія нормы партыйнага жыцьця..., **выкрывілі сьвяты прынцып інтэрнацыяналізму ў нашай партыі, занялі пагардлівую пазыцыю да кадраў іншых нацыянальнасьцяў...»** (падкр. наша — У. Н.)

У гэтай-жа самай прамове Караеў запэўніваў XXI-ы зьезд аб «любові туркмэнскага народу да вялікага расейскага народу», паўтараў аб «цесным адзінстве народаў», аб «духу інтэрнацыяналізму й братнай дружбы народаў СССР», аб «ленінскай нацыянальнай палітыцы нашай партыі»...

«Злачынства» Бабаева й Дурдыева цяпер хіба яснае для кажнага, і яно, з гледзішча бальшавікоў, запраўды жудаснае. Акрэсьліваецца яно коратка: «нацыяналістычны ўхіл». Нездарма-ж Бабаева й Дурдыеву выключылі з ЦК кампартыі Туркмэніі, Бабаева — з ЦК КПСС, нездарма было пастаўленае пытаньне аб «адкліканьні» абодвух зь Вярхоўнага Савету СССР, а навет і аб выключэньні з партыі; нездарма ў абвінавачвальных прамовах ужываліся ня толькі такія тэрміны, як «непартыйная дзейнасьць», але й «антыпартыйная», а навет і «антыдзяржаўная».

Некаторыя палітычныя камэнтатары на Захадзе, учапіўшыся за тэрмін «зямляцтва», намагаліся даказаць, што ў гэтым выпадку справа не ў «нацыянальным пытаньні», а ў... пляменных розьніцах, якія, маўляў, існуюць у Туркмэніі. Хопіць навет пададзеных вышэй вытрымак, каб сьцьвердзіць усю бязглуздасьць такога тлумачэньня. Міжволі насоўваецца прыпушчэньне, што прыгаданыя камэнтары знаходзяцца пад уплывам тых спарахнелых «экспэртаў» ды «дараднікаў», для якіх нацыянальнай праблемы ў СССР «не было, нет, і быть не может».

Чыстка ахапіла ня толькі верхавіну партыйнага апарату ў Туркмэніі. Выявілася, што й асабістае інтэрвэнцыі Хрушчова не хапіла, каб зусім «навесьці парадак». Лінія Бабаева й Дурдыевай мела шмат прыхільнікаў і ў «нізавых» арганізацыях. Весткі з туркмэнскае савецкае прэсы паказваюць, што змаганьне зь імі працягваецца.

Нядаўна — у сакавіку — прыйшла другая вестка: у сумежным з Туркмэнскай ССР Узьбэкістане таксама адбылася чыстка на вярхох: першы сакратар ЦК кампартыі Узбэкістану Шарыф Рашыдаў і старшыня Савету міністраў Узбэцкай ССР Мансур Мірза-Ахмэдаў былі знятыя із сваіх становішчаў. Аб гэтым быў апублікаваны толькі кароценькі «інфармацыйны камунікат», дзе, зразумела, прычынаў не падавалася. Да гэтага часу няма ніякіх вестак, ці ў Узбэкістане чыстка мае такія-ж памеры, як у Туркмэнскай ССР. Ёсьць, аднак, усе падставы думаць, што прычыны гэтай акцыі аналягічныя. Ня трэба забывацца, што Туркмэнская, Узбэцкая, Казахская, Кіргіская і Таджыцкая ССР, ведамыя пад агульным назовам Туркестану, зьвязаныя міжсобку супольнасьцяй культуры і — акрамя Таджыкістану — супольнасьцяй мовы. Бальшавікі сьведама падзялілі Туркестан на шэраг паасобных рэспублік, карыстаючыся ведамым і заўсёды імі ўжываным прынцыпам «дзялі й валодай». Няма падставаў сумлявацца, што ў Узбэцкай ССР адбываліся аналягічныя працэсы, як і ў Туркмэнскай — працэсы, якія бальшавікі небеспадстаўна ўважаюць для сябе аднэй з галоўных пагрозаў.

Мы сьведама абмінулі падзеі, якія ў канцы сакавіка і ў пачатку красавіка адбыліся ў БССР. Маем тут на ўвазе пленум ЦК КПБ і сэсію Вярхоўнага Савету БССР. Падзеі гэтыя маюць крыху іншы характар, чымся падзеі ў Туркестане, хоць яны й маюць міжсобку пункты сутыку. Але гэта — тэма на асобны артыкул.

**Ул. Неманові**ч

# Абрагам Лінкольн

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

У той-жа самы дзень, калі Паўдзённая Кароліна абвесьціла аб сваім выхадзе з Вуніі, было склікана паседжаньне Кангрэсу, які ў вапошні момант хацеў разгледзець магчымасьці кампрамісу, дзелячы новыя тэрыторыі на дзьве часткі: свабодныя й нявольніцкія. Лінкольн аднак адказаў ультыматыўна, што на ўсіх новых тэрыторыях нявольніцтва мае быць забароненае, пакідаючы яго вылучна толькі ў паўдзенных нявольніцкіх штатах.

Такім чынам пагроза выхаду паўдзённых штатаў з Вуніі сталася фактам, а Лінкольн тымчасам ня мог яшчэ дзейнічаць, бо толькі ў сакавіку 1861 году меў пераняць становішча прэзыдэнта.

Гэрбэрт Агар у сваёй кнізе «Абрагам Лінкольн» піша якраз пра гэты пэрыяд у жыцьці Лінкольна наступнае:

«Чакаючы свайго тэрміну, Лінкольн напэўна пытаў сябе, што станецца з краінай, калі наступіць дзень ягонага ўступленьня на прэзыдэнцкі пасад. Намер ягоны быў цьвёрды. Калі ён распачне выконваць свае абавязкі й калі яго да гэтага часу не забʼюць, ён будзе дабівацца, каб канстытуцыя засталася ў сіле «ў кажнай частцы кажнага із задзіночаных штатаў». А гэта, як ён ня мог ня ведаць, азначала вайну.

«Мы можам сабе ўявіць, якія мукі цярпеў Лінкольн, прыходзячы да такое наважанасьці. Ён ня мог быць перакананы, што вайна, як разгарыцца, акажыцца ня цяжкай. Ён быў знаёмы із срогай запраўднасьцяй, што вайна рэдка вядзе да палепшаньня, часьцей за ўсё — да пагоршаньня палажэньня. Але ён таксама ведаў, што гэтым не апраўдваецца пакорнае прыняцьце зла...»

У дачыненьні да нявольніцкае сыстэмы Лінкольн выказаўся так: «Мы лічым відавочнай праўдай, што ўсе людзі створаны роўнымі, што Творцом ім былі дараваныя некаторыя неадлучныя правы, а ў іх ліку — жыцьцё, свабода й імкненьне да шчасьця». І як-жа часта ён падчыркваў: «Як я не хацеў-бы быць нявольнікам, так не хацеў-бы я быць і собсьнікам нявольніка. У гэтым выражаецца мая ідэя дэмакратыі».

Ня гледзячы на тое, што ўсе паўночныя штаты ў прэзыдэнцкіх выбарах падтрымалі рэспубліканцаў, было тут аднак далёка да гарманійнае згоды. Розныя групы, групоўкі інтарэсаў, партыі й паасобныя штаты парознаму глядзелі на эвэнтуальнасьць вайны з Поўднем. Дзеля таго першым крокам Лінкольна, пасьля абняцьця прэзыдэнцкага пасаду, было стварэньне такога ўраду, у якім-бы хаця ў пэўнай ступені былі рэпрэзэнтаваныя інтарэсы гэтых групаў, а яшчэ больш — заспакоеныя амбіцыі.

Яшчэ да абняцьця свайго становішча Лінкольнам, канфэдэраты захапілі цэлы шэраг цьвярдыняў, а цьвярдыня Сумтэр у Паўдзённай Кароліне, якая яшчэ знаходзілася ў руках фэдэральнага ўраду, была імі абкружана. Калі Лінкольн паставіў перад сябрамі ўраду пытаньне пасланьня дапамогі абкружанай цьвярдыні, дык адныя зь іх выказаліся супраць такога кроку, бо ён азначаў-бы пачатак агрэсыўных дзеяньняў, а іншыя проста ўхіліліся ад заняцьця пазыцыі. Лінкольну давялося дзейнічаць на сваю руку. Ён выслаў экспэдыцыю з правіянтам для гарнізону Сумтэр. 12 красавіка 1861 году гарматы канфэдэратаў адкрылі агонь па экспэдыцыі. Грамадзянская вайна пачалася.

Тут няма ні магчымасьці ні навет патрэбы апісваць прабег грамадзянскае вайны, але трэба падчыркнуць, што невядома, ці Поўнач перамагла-б, калі-б ня мела такога дзяржаўнага мужа, як Лінкольн. Поўдзень меў куды больш баяздольную армію із здольнымі генэраламі на чале. Поўнач мела геніяльнага палітычнага правадыра — Лінкольна. І яшчэ трэба адцеміць, што 22 верасьня 1862 году Лінкольн абвесьціў наступнае: **«Асобы, якія маюць статус нявольнікаў у раёнах бунту супраць Задзіночаных Штатаў, будуць абвешчаныя вольнымі 1-га студзеня 1863 году».** Цікавае, і на нашу думку зусім трапнае, тлумачэньне гэтага Акту Эманцыпацыі дае Гэрбэрт Агар. Ён піша, што гэты акт «быў зусім ваенным мерапрыемствам. Лінкольн, паводля канстытуцыі, ня меў права разьвязваць нявольніцтва ў паасобных штатах, але ён прысвоіў сабе права вызваліць нявольнікаў бунтаўніка ў якасьні пакараньня за бунт». Бязумоўна, Лінкольн, які сам адносіўся да канстытуцыі як да сьвятасьці, ня мог ісьці на пагвалчаньне яе, але, з другога боку, сваім глыбокім розумам, хай сабе й пад ціскам абставінаў, знайшоў формулу (хоць спачатку, здавалася, толькі ўмоўную) для скасаваньня такое ганебнае інстытуцыі як нявольніцтва.

Вечарам 14 красавіка 1865 году, калі Лінкольн сядзеў у лёжы тэатру, нейкі Джон Бутс колькімі стрэламі ў галаву спыніў жыцьцё гэтага гэніяльнага мужа. Забойца думаў, што гэтым ён памсьціўся за ўпакарэньне Поўдня, ня ведаючы таго, што калі-б не ягоныя кулі, дык Поўдзень напэўна ня перажываў-бы тае помсты, пагарды й эксплятатацыі, якія на яго зваліліся пасьля сьмерці Лінкольна.

На заканчэньне дазволім сабе прывесьці даволі доўгую цытату з кнігі Элэна Нэвінса «Задзіночаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі», дзе даецца глыбокая агульная характарыстыка Лінкольна як дзяржаўнага мужа й як чалавека.

«Фактычна, — піша Нэвінс, — ніхто ня знаў спачатку, якога памеру асабістасьцяй быў гэты неачэсаны адвакат з Захаду, нясьмелы, няпрыгожы й вельмі недастаткова асьвечаны. Ягоны собскі міністар вайны празываў яго гарылам; варожая яму прэса называла яго дурнем. І толькі паволі, паступова пачалі разумець ягоную глыбокую мудрасьць, якая была вынікам нявычэрпнае працы ягонага інтэлекту; толькі паволі дайшло да іншых ягонае бязьмежнае імкненьне да праўды, бязьмежная церпялівасьць і вялікадушнасьць. Былі мамэнты, калі здавалася, што ён хістаецца, але зь бегам часу выйшла на яву, што сіла йшла ў яго заўсёды поруч пачуцьця такту. Дасканала знаючы амэрыканскі народ, ён ведаў дакладна, калі трэба йсьці наперад, а калі ня трэба кранацца з займанай пазыцыі.

«Быў ён найбольш чэсным з усіх правадыроў, ніколі не паслугоўваўся нячыстымі сяродкамі. Калі зьвяртаўся да сваіх прыхільнікаў, заўсёды адклікаўся да іхнага зразуменьня, ніколі ня выкарыстоўваў іхнае няведы ці папярэджаньняў. Ягоныя думкі й словы былі так насякнутыя спачуваньнем да бліжняга, што ніколі, навет у найбольш гарачых і найбольш цяжкіх мамэнтах канфлікту, не сказаў пад адрасам паўднёўцаў мсьцівага слова. Ягоным жаданьнем было задзіночаньне краіны нанова ў праўдзівай супольнасьці сэрцаў; калі ўжо вайна падыходзіла да канца, ён яшчэ запрапанаваў паўднёўцам саліднае адшкадаваньне за ўсіх нявольнікаў. У вядзеньні замежнае палітыкі Лінкольн выказаў годнасьць, правасьць і станоўкасьць. Ня гледзячы на тое, што для вядзеньня вайны ён мусіў сабе ўзурпаваць неабмежаваныя правы, горача верыў у дэмакратычны самаўрад і патрапіў здабыць супрацоўніцтва ўсяго народу. Кіраваў ён урэшце так аўтарытатыўна як самадзержац, але адначасова карыстаўся неабмежаваным даверам шырокіх масаў.

«У меру таго, як расьлі ягоныя абавязкі. разьвіваўся таксама ягоны дар слова; ягоная прамова ў Гітысбургу й прамова, сказаная з нагоды паўторнага абняцьця прэзыдэнтуры, становяць сабой пэрлы ангельскае прозы...»

☆

Калі сяньня чалавецтва йзноў апынулася ў вабліччы жудаснае рэчаіснасьці, дзе ёсьць «тэрыторыі» свабодныя й нявольніцкія, дык постаць вялікага Лінкольна тым жывей паўстае перад намі. Паўстае й трагічная паралель да тагачаснае амэрыканскае рэчаіснасьці: свабода ці няволя?! Пакінуць нявольніцтва толькі ў тых «штатах», дзе яно йснуе, ці дазволіць яго перанесьці й на «новыя тэрыторыі»?!

Трэба верыць, што ня гледзячы на наяўнасьць самых скрайных розьніцаў, ня гледзячы на маладушнасьць некаторых міністраў і «штатаў», прыйдзе яшчэ **новы Вялікі Лінкольн** і ўльтыматыўна скажа: «Народы, якія маюць статус нявольнікаў...» Канец нявольніцтву!

**А. Галубіцкі**



# Парушаймася пра свае справы

(Працяг з 2-ой бач.)

каў або суседзяў, бывае, адмаўляюцца прадаваць чорнаму свой дом або зямлю. І перадаець Віцьбіч у сваім цьверджаньню, кажучы, што «ніводзін чорны або наагул каляровы не адважыцца завітаць да рэстарану, як звычайны наведавальнік». Кажны зь іх, нат баязьлівы, можа заходзіць да кажнага рэстарану, ніхто яго за гэта не пакарае. І **права забараняе ня пушчаць** чорных да рэстарану. Але, праўда, ёсьць і такія рэстараны й гатэлі, куды чорных пад рознымі прыклепамі ня пушчаюць. Чорныя, адылі, ад гэтага ня маюць ніякае страты. Ведама, што пры ўзаемных дачыненьнях немагчыма ўсьцерагчыся, каб за ліхіх чорных ня ўкрыўдзіць добрых чорных.

Побач із маральнай адсталасьцяй часьці Нэграў, ёсьць таксама некаторая інтэлектуальная іх адсталасьць, прынамся ў часьці іх. Найменей (ці мо' праўдзівей будзе сказаць, найболей?) лічацца з гэтай адсталасьцю гаспадарствавыя ўрады Задзіночаных Гаспадарстваў. Каму здаралася быць у гэтых урадах, той ня мог не заўважыць, што Нэгры ўраднікі на тым самым становішчу, што белыя, ніжэй інтэлектуальна й прафэсыянальна стаяць за гэтых. Белых-бы такіх ня прынялі, але чорных прымаюць, каб падняць іх, зраўнаць ізь белымі.

Напэўна некаторая такая адсталасьць ёсьцека і ў працы фізычнай розных адумысловасьцяў, вымагаючай ня толькі сілы рук, але й уменьня, кемнасьці. Дзеля таго няма дзіва, што некаторыя фірмы ахватней прымаюць на работу белых чымся чорных. Калі, адылі, як піша Віцьбіч, палавіна белых зарабіла ў 1950 г. сярэдня 2481 даляр кажны, а палавіна чорных 1295 дал. кажны, дык гэта не бяда. Запрыгонены ў калгасы беларускі сялянін і сту даляраў у год не зарабляе.

Я жыву ў Ню Ёрку, і мае зацемкі пра Нэграў датычацца да паўночнае часьці Задзіночаных Гаспадарстваў. На паўдні дачыненьні горшыя. Там ёсьць абмежаньне грамадзянскіх правоў чорных мясцовымі (стэйтавымі) ўставамі. Прасьцяг дзейнасьці, адылі, стэйтавага права вельмі абмежаны. Горш там із прыватнымі дачыненьнямі паміж белымі й чорнымі. Але з паўдня чорныя могуць колькі хаця перасяляцца на поўнач, дзе без абмежаньня карыстаюцца ўсімі вялікімі магчымасьцямі амэрыканскіх грамадзян. Гэтая магчымасьць болей чымся зусім надгараджае ім тыя нястачы, каторыя яны маюць на паўдні.

Можна сьцьвердзіць, што, відавочна вялікая, бальшыня амэрыканскіх Нэграў мае высокі дабрабыт, каторы ня можа быць навет прыраўнаны да жыцьцявое роўні іх афрыканскіх родзічаў, ані пагатове да галіты беларускае людначасьці ў нашай паняволенай Бацькаўшчыне; што-ж да другое часьці Нэграў, дык хоць яны ня так добра маюцца, як першыя, але ад іх самых залежа выкарыстаць амэрыканскія магчымасьці дзеля дагнаньня першых. Напэўна ніхто з амэрыканскіх Нэграў не жалее, што ягоныя прашчуры былі вывезены да Амэрыкі. Свой дабрабыт і вялікія магчымасьці амэрыканскія Нэгры заўдзячуюць Задзіночаным Гаспадарствам.

Як само гаспадарства, так і чысьленыя грамадзкія дзейнікі, арганізацыі й асобы, як нідзе ў сьвеце, вельмі рупяцца й працуюць пра разьвязаньне праблемы Нэграў на паўдні Амэрыкі. З тых рэзультатаў, каторыя ўжо цяпер ёсьць, можна быць пэўным, што яны яе разьвяжуць.

Мы, Беларусы ня маем ніякае магчымасьці ані павіннасьці прычыніцца да разьвязаньня праблемы Нэграў на паўдні Задзіночаных Гаспадарстваў, дый ніхто нас да гэтага не патрабуе. Дык і ня маем сабе займаць часу гэтай праблемай. Рупмася пра свае беларускія справы, каторых у нас болей і яны цяжшыя, чымся справы амэрыканскіх Нэграў. *)

Але калі Нэгра, наш сябра ў працы, апынецца ў нябесьпечнасьці, то выратуйма яго, бо гэтага вымагае звычайная людзкасьць.

**Брачыслаў Скарыніч**

(Із Жывое Газэты Культурна-Асьветнага Вечару Беларуска-Амэрыканскага Зьвязу).

*) Калі я пісаў гэты артыкул, дык у мяне ўзьнікаў сумлеў, ці маю я права пісаць на гэтую тэму, ці ня крыўджу я свайго народу, забіраючы ад ягонае справы свой час на гэты артыкул? Прышоў я, адылі, да перакананьня, што валей раз страціць час на гэта, чымся траціць яго абярняся даўгі час.

## 25 САКАВІК НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЯ Ў НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 29 сакавіка кіраўніцтва Беларускае Радыёвае Праграмы ў Нью Ёрку (WPOW) прысьвяціла цэлую сваю паўгадзінную праграму 25 Сакавіку — 41-ым угодкам абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Перадача пачалася «Песьняю Волі», пасьля якое была прачытана праклямацыя губэрнатара штату Нью Ёрк, у якой дзень 25 Сакавіка абвяшчаўся Беларускім Днём у гэтым штаце. Далей быў даклад аб Вялікім Сакавіку, прачытаны д-рам Міколам Шчорсам. А вучаніцы Беларускае школы зь Нью Брансьвіку — Аня Стома й Іза Кабушка прадэклямавалі вершы «Зорка шчасьця» (А. Будзіча) й «Упэўненасьць» (А. Бялевіча). Пасьля гэтага была прачытаная праклямацыя Беларускага Дня штату Нью Джэрсы й такая-ж праклямацыя гораду Пасэйку, Нью Джэрсы.

Сьвяточная праграма была дапоўненая песьнямі: «Маю толькі шлях адзін», «Падняты родны сьцяг Дзяржавы»; і на заканчэньне — Беларускі нацыянальны гімн.

Праграмаю кіраваў кіраўнік беларускіх перадач у Нью Ёрку, якія надаюцца кажную нядзелю, сп. Міхась Казьлякоўскі.

**АНДРЭЙ МАКАЁНАК** 6)

# Каб людзі ня журыліся

**Камэдыя ў 4-х актах**

**Кавальчук** (Грачову): Падлічы, колькі каштуе прастой піларамы за адзін дзень.

**Грачоў** (вымае з кішэні паперку): Сто сорак шэсць рублёў і восемдзесят дзьве капейкі. (Аддае паперку Кавальчуку).

**Самасееў:** Крута бярэш. Не забывай, што і мы былі калісьці рысакамі.

**Кавальчук:** Пара і ў ваглоблях пахадзіць. Сяньняшні прастой піларамы адносім за твой кошт. Роўна сто сорак шэсьць рублёў і восемдзесят дзьве капейкі. Агрэгат павінен працаваць. А цяпер можаце йсьці й пляваць у дзірку. Толькі да заўтрашняга дня. А заўтра раненька выходзьце на працу. Усё!

**Самасееў:** Нічога. Прыйдзе й на нашу вуліцу сьвята.

**Кавальчук:** На вашай вуліцы ўжо адсьвяткавалі, час і за работу брацца.

**Сенька-Заіка:** Масьленіца скончылася, п-прыйшоў вялікі пост.

**Кавальчук** (да 1-га калгасьніка): А вы чаму на нарад ня выйшлі?

**1-шы калгасьнік:** Ды мне.. трэба катух адгарадзіць парасяці. А то ў вадным хляве з казой. Прыбіла яго...

**Сенька-Заіка:** Характарамі ня зыйшліся...

**Кавальчук:** А сеяць калі будзем?

**1-шы калгасьнік:** Калі ўжо так трэба, дык я пайду. (Да брыгадзіра). Куды мне йсьці?

**Грачоў:** Лён сеяць.

**Каб людзі ня журыліся**

**2-гі калгасьнік:** Ці не замнога мы лёну сеем, старшыня? Кажуць, што трэба адкусіць такі кавалак, каб і праглынуць можна. А мы трыста гэктараў лёну... (Аж прысьвіснуў). Падумаць страшна. Ня ўправімся.

**Грачоў:** Суседзі пяцьсот сеялі летась і ўправіліся. Дзесяць мільёнаў грашыма ўзялі.

**Кавальчук** (Да 2-га калгасьніка): А вы што зрабілі, каб управіцца?

**Сенька-Заіка:** Т-таксама д-думаю. С-сяджу й д-думаю. Як г-гэта лён в-вырасьце, калі ён т-толькі (Паказвае на 2-га калгасьніка) с-сядзіць і д-думае. Пад-думаць трэба.

**Кавальчук:** Вечарам зьявецеся ў праўленьне. Будзем штрафаваць. Самі галасавалі: за нявыхад на работу бяз прычыны — зьнімаць пяць працадзён.

**Сенька-Заіка:** А к-калі ў яго т-толькі ч-чатыры й было?

**Кавальчук:** У цябе пазычыць.

**Сенька-Заіка** (2-му калгасьніку): Табе пазычу. Ты чэсны. (Брыгадзіру.) Куды загадаеш,

**Грачоў:** Па хімікаты паедзеш. (2-му калгасьніку.) А ты — гной вазіць.

**Раман:** А мне да хаты йсьці ці запрагаць,

**Грачоў:** Ідзі запрагай і вазі насенную бульбу ад капца. Там бабы перабіраюць.

**Кавальчук:** Дзед! А ты таксама на работу?

**Дзед:** Я калі што змагу, дык... я магу... Толькі хату мне, таварыш старшыня. Страха цячэ... Можа, як небудзь... пакуль кулі будуць... ахапак саломы... А то цячэ...

**Кавальчук:** Безь цябе, дзед, управімся. (Грачову.) Зь сяньняшняга дня выдзяляць пару коней для індывідуальных агародаў. Будзеш выдаваць лепшым калгасьнікам, тым, хто акуратна зьяўляецца на нарад. Першаму сяньня-ж каня — дзеду. За свой век заслужыў.

**Грачоў:** У мяне й так малавата коней.

**Кавальчук:** А людзей?

**Грачоў:** Калгаснае поле не засеена яшчэ, а тут свае агароды!

**Кавальчук:** У калгасе ўсё сваё — і агароды, і поле. Ясна?

**Грачоў:** У кажнага хай галава баліць за сваё. У мяне за поле, а ў каго за свой агарод.

**Сенька-Заіка:** Падзяліў, значыць? У-урозь?

**Грачоў:** Урозь.

**Сенька-Заіка:** Аддзяліў, значыць, мяне ад калгасу?

**Кавальчук:** Ясна, Грачоў? Калі пра калгас дбаеш, самага галоўнага не забывай — людзей.

Калгасьнікі разыходзяцца. З канторы выходзіць Цярэшка.

**Кавальчук** (Цярэшку): А ты правільна прыдумаў.

**Цярэшка:** Што я прыдумаў?

**Кавальчук:** Не пагаспадарску — трымаць такую фэрму.

**Цярэшка:** Як-ж кажу: ці бычкі — фэрма?

**Кавальчук:** Правільна. Дык ты раіш — бычкоў пад нож, на мяса ды на базар?

**Цярэшка:** Хіба я так сказаў?

**Кавальчук:** Ведаю. Ты хацеў так сказаць, толькі не асьмеліўся.

**Цярэшка:** А ў замен купіць дзесятак цялушак кастрамской пароды.

**Кавальчук:** Ну што-ж, паслухаю цябе. Прыдумаў ты добра.

**Цярэшка:** Гэта-ж ты сам прыдумаў. Ты на мяне не валі.

**Кавальчук:** Баішся па загрыўку атрымаць?

**Цярэшка:** А ты не баішся? Навошта-ж ты мне прыпісваеш сваю выдумку?

**Кавальчук:** Каб ты, Цярэшка, гаспадаром сябе адчуў.

**Цярэшка:** Давай пораўну дзяліць.

**Кавальчук:** Згодзен.

Да праўленьня набліжаецца бухгальтар Ліхтароў.

**Цярэшка** (заўважыў бухгальтара): Паглядзеце, што робіцца з нашым бухгальтарам. Пʼяны ён ці што?

Ліхтароў падыйшоў, спыніўся, некалькі разоў кіўнуў галавой. І ў гэтым кіўку — нявыказныя горыч, роспач, безнадзейнасьць.

**Кавальчук:** Што з вамі, Мікалай Кузьміч?

**Ліхтароў:** Пʼяны я... Напіўся... з гора... Два куфлі піва...

**Кавальчук:** Ты напіўся? Што здарылася?

**Ліхтароў:** Арыштавалі...

**Цярэшка:** Каго?

**Кавальчук:** За што?

**Ліхтароў:** За даўгі...

**Кавальчук:** Каго арыштавалі?

**Ліхтароў:** Мяне... і цябе... за даўгі, за крэдыт. Арыштавалі.

**Кавальчук:** Нічога не разумею.

**Ліхтароў:** Потым зразумееш. На якога чорта ты мяне цягнуў у гэты калгас? Чаго я паехаў сюды бухгальтарам? Такой ганьбы за свой век я не перажываў.

**Кавальчук:** Мікалай Кузьміч! Ты толкам скажы, у чым справа?

быццам ськівнуў зь нябёс хтосьці долу ўсе
[зоры . . .
Зь дзервянога вядзерца пры студні глядзеў
ветах,
голкамі йльдзянымі колючы ў вусны.
Аж усьцешыўся Паўла сьцюдзёнай вадзе,
нахінуўся і ў пысу прост месяца плюснуў.
Сон . . .
Вілася кудысьці дарога . . . Вышэй
і вышэй і вышэй без канца і бяз краю . . .
Пяўся ёю, далёк, цяжка месячы глей,
дзядзька хросны . . . маленькі . . . вось-вось —
[і растае . . .
«Дзядзька!» — крыкнуў Паўлюк, але вусны
[чамусь
зацяліся і кліч ня даў рады праліцца . . .
Ірвануўся юнак: «Годзе, дзядзька Самусь,
пачакай!» —
ды ўжо зьгінуў той зьнічкаю
[ніцай . . .
Выбег Паўла на шлях, даганяць,
але тут
апляла яго маці зьнячэўку рукамі,
трохлінейку з пляча, з рамяня каліту
цягне з плачам, а вецер прадзе і сукае
пражу срыбную косаў ля Паўлавых ног,
што ўжо й кроку па шпулі гасьцінцу ня
[ступіць . . .
Плача маці
і просіцца Павал дарог
недаткнёных даткнуць . . . А зь імшарышча, з
[купін
хтось выходзіць на шлях . . .
Хтось такі залаты,
ажно сьлёзы ў хлапца накіпаюць на вейках.
Маці . . . зноўку яна?
Не . . . У косах густых
ані сівае ніткі, і моцаю нейкай
яна срыбныя, тыя — зьмятае на бок,
як вятры дым блакітны з бульбянішч
[асеньніх . . .
І выпроствае плечы балючыя, крок
пажаўнерску раўнуе ўжо Паўла, і сьценем
усплывае у думцы ймя той, залатой
памагальніцы аж над каханьне узьняцца:
Хто-ж, калі не яна іх вядзе за сабой —
Беларусь,
што сьвяцейшая навет за маці?
Так, у сьне, й ён пайшоў угару, ў далячынь,
дзе было ўсьцяж грымотней, агнісьцей,
[крывавей . . .
Ды ішла зь ім Яна, йшла удзень і ўначы,
залатая Яна —
ў паняверцы, ці славе!

. . . . . . . . . . . . . . .

Дзядзька сну ня ўзьлюбіў, а чаму — не сказаў.
«Ат, мара, — збыў, тытун уціскаючы ў
[люльцы.
Дык патросе ўвіла яго дзей дзераза,
быццам новая пража старую на шпульцы.
Першы хрост быў аднэй зь іх . . .
Сьпявалі,
[нагой
адбіваючы тахты на бубнах дарогаў.
Золкі вецер нёс нізка над бурай смугой
пералескаў ірваныя хмары,
аж логам
нехта стрэліў . . . Раз . . . болей . . . і скрозь
[узялі
бзыкаць кулі гундосымі, злымі чмялямі.
Вомірг —
шлях, як зьмяло, а па мокрай ральлі
пачала разьліваццa ўшыр цёмная пляма . . .
Лёг Паўлюк у раўку, доўга, доўга цаляў,
аж і стрэліў, стуліўшы чамусьці павекі.
Цела церпла й кудысь адплывала, маўляў
апаілі яго чараўнічыя лекі.
Але ўспомніўшы ў жаху за што, за каго,
Паўла сьціснуў замок . . .
Як сталёвыя, рукі
ўраз зайгралі, і ў тон, як вучылі . . .
Мо год,
можа й два, як у сьне, ён так стукаў-бы й
[стукаў, —
ды аднекуль даткнулі аглухлых вушэй
словы свойскай каманды, зьнімаючы ўрокі . . .
Глянуў Паўла:
ўздымалася рыжая шчэць
быльнягу перад ім на якія два крокі . . .
Побач — нехта зіркаў на яго . . . на твары
пахудалым блукала і гасла усьмешка . . .
Не пазнаў у ім дзядзьку, Паўлюк да пары,
аж ня выняў Самусь люлькі й сіняю сьцежкай
не паплыў у нямую чамусь цішыню
едкі дым тытуну . . .
А тады із разораў
чорных хмараў зьдзьмуў вецер дзікую ганьню
ашалелых, асьлеплых, усьпененых зораў.
Вачавідкі
у бель апрануліся лог,
быльнягі, глей размоклы і шэрыя сьпіны
шынялёў . . .
Прытуліўся, грудзіма прылёг
Павал зь ленаю стомай да белае стыні . . .
Ды сьнег стаяў адразу . . . Ральлі грабяні
зачарнеліся зноў найчарнейшаю чэрняй.
А усьлед — буйна ўзноўку, з пляча, ня
[спыніць,
сеяць вецер пачаў жмені белага зерня . . .
І калі ўрэшце выйшлі жаўнеры на шлях,
ён ляжаў перад імі няткнёны і чысты,
і шасьцелі над хлопцамі секі гальля
белым, белым і кволым,
як казачным, лістам.

. . . . . . . . . . . . . . .

Пацягнуліся дні перамогаў і змог,
сконаў тут, між сваіх і тых, горшых, бязь
[сьветак.
Каб хацеў апісаць іх паэт,
ён-бы мог
сваю Слуцкую Песьню пачаць хай і гэтак:
. . . «На Міколу быў фэст у сяле . . .
Пераймаць
звон званоў не пайшла, — бо Міколы-ж
[няма —
Васілёвая Настка (У бурай траве
мо, прыціхлы, ляжыць ён і ўжо ня жыве?)
Усю ноч над сацьмелаю пасмай лясоў
узгаралася й гасла нябёсаў крысо,
і дрыжэлі у сполаху шыбкі вакна,
і ўсю ноч іх спалох разважала яна.
Грэх штось сьвятам рабіць
ды як збыцца
[наўды?
Можа выцягнуць, бегчы, із студні вады?
Зазваніла на ганку вядро аб вядро,
бо пабачыла Настка пад прызьбаю кроў.
А тады — шэры сьцень праслы плоту абняў —
і ня стала для Насткі зімовага дня . . .
Ледзь зьвінелі, пад вецер, званы у царкве . . .
Твар бяз кроплі крыві,
кроў на йлбе, галаве . . .
Дай напіцца — і ўсё . . . Пастаю і пайду,
каб яшчэ й на цябе не наклікаць бяду.
Абхапіла дзяўчына яго, павяла
ад сьцяны да сьцяны, ад шула да шула,
падала у каўшы дзеравяным вады . . .
А мяцеліца, белы ўзьмятаючы дым,
белай ніткай усьлед зашывала сьляды . . .
Ў варыўні ў Васілёў быў пад насьцілам склеп.
Дзе тут лепшага схову шукаць у сяле?
спавіла галаву ў палатняную бель,
За кадушкай з качаньнем паслала пасьцель,
а тады —
не збаюся ні куль, ні агню,
а нікога, нікога ня пушчу ў варыўню,
ня пушчу,
хай пасьля накладу галавой,
бо ты-ж любы, ты любы, ты любы мой.
А ён . . .»
Так вось, ці накш, чым далей —
[імклівей:
Як пазнаць, што паэта спляце ў галаве?
Або можна і так:
«Ад сутоньняў да ранкаў,
ад паўдзённай гудзьбы да паўночнай глухмені,
ізь бярозмі на ўзьлесьсях гулялі ў хаванкі
сьцені ў доўгіх шынэлях, зь вінтоўкай у
[жмені.
Раз-па-разе грымела пагрозьліва, зьдзекла,
над стаптанаю руняй
і сьценем пад ногі
выбухала чырвонае й чорнае пекла,
разрываючы целы і пасмы дарогі . . .
Доўга чадныя хмары тады калыхалі
раны ўзьнятых суглінкаў і стогнаў захлысты,
і сукруху асталых
аж вецер у галі
ўжо зімовых нябёс узьмятаў усё чыста.
Так бывала ня раз, і ня два . . .
Закарэлі,
загніліся у ботах жаўнерскіх анучы,
але сэрцы цьвілі й доўга, доўга — ня прэляй,
а юнацтвам, а верай
тхнулі песьні над Случай» . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Ды прыцішыў, парваў іх
ля Цімкавіч бой.
Што ён будзе — ўсе зналі . . . Паволі, ступой,
надыходзіў ён — пэўны, важкі, неадхільны.
Помніў Паўла:
ішлі, а ішлі ад відна.
Ноч накрыла ля вёскі . . .
Кранаючы дна,
засынаючы, ён, з пад павекаў няшчыльных
бачыў дробную зорку яшчэ паміж хмар,
што глядзела яму проста ў вочы . . .
Ўзапар
колькі раз раптам вухнула нешта на шосе
і у ноч хтосьці ўбіў, быццам, вогнены клін:
загарэліся зырка гумнішчы, палі,
нат прадоньне ўгары — як смаляк занялося.
Усхапіліся хлопцы . . . Паветра гуло . . .
Недзе зь цемрадзі, сьлізкай, як чорнае шкло,
білі мерна і ўпарта па гумнах гарматы.
Над галовамі, ў пырсках суквецьцяў дзіўных
расьцьвіталі ракеты . . .
І Маці
й сыны
выйшлі ў бой, як на доўга чаканае сьвята . . .
Полк у пекла адразу нырнуў з галавой.
Роў і скрыгат і рогат і лязг,
як крывой
абчырцілі жаўнерскую гушчу зьнянацку.
Вомірг лучыў і Паўла ў шалёны рапсод:
нібы ў сьне, кляў кагосьці ў няпамяці рот,
нібы ў сьне, цела ймкнула кідкамі, абмацкам
па грудох, па кусьці,
бо ўсёй праўды ў жыцьці —
біцца, біцца і біць, не аддаць, ня пусьціць,
кіпцюрамі, зубамі, як куляў ня стане!
А тады —
ўсё зьлілося ці ў цемрадзь, ці ў
[зьзянь,
ня было, нат, здаецца й скрылька зялязьзя
на ўсім сьвеце
які-б ці ня пёк, ці ня раніў!
Шмат пазьней дзесь
гарматны разрыў і чарга
з кулямёту прыгнулі ўсіх нізка . . . Загад
быў іх кінуў якраз у атаку . . . Віднела . . .
Глянуў Паўла — усе. Хросны войкнуў знарок,
а тады засьмяяўся: «жывыя, сынок»,
ды ўжо ўзяўся паўзьці,
калі пругкае цела
раптам дзіўна зьмякчэла, лягло на руку,
быццам сноп ababіты, пусты на таку,
і на пальцы, на люльку
чырвоная пена
шкумятамі буйнымі, як з пыскаў каня
наравістага, лынула.
Цела прыўзьняў
ужо Паўла, ня дзядзьку, зь зямлі на калены.
Бой ня згас і у сонцы, ў барвовай смузе,
пабывала таксама ў штыхох балазе,
яно ўстала, ды зараз і сплюшчыла вочы . . .
Аж —
нястала нікому ні куляў, ні сіл . . .
Няжывых падабралі аж толькі уночы . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Ня было у сяле ні царквы, ні папа,
дык палеглых
у Семяжаве
хавалі.
На сялянскіх вазах, за ступою ступа
ў шлях апошні пайшлі яны . . .
Рэзвыя хвалі
ветру ў дні тым плылі а плылі спад паўдня
на бязьлістыя ліпы, ў прасьветы званьніцы,
і таму мо званы ня было як суняць,
скрозь званілі, званілі, званілі й спыніцца
не маглі, пакуль ветру вышою і сьлёз
на зямлі . . .
А іх — стала над брацкай магілай.
Адпявалі — пад небам . . .
У цэркву-б ня ўнёс
і часьцінкі тых, што, бяз крыві і бязь сілаў,
у настылы пясок палягалі на сон . . .
Вокам ськінь —
хвалявалася людзкае мора,
сваякі ці чужыя — свае ўсе спакон
веку . . .
Паўла зь сябрамі, ізь сьцягам, дазорам
стыг наперадзе . . . Вецер ірваў, церабіў
паніхіды ўрачыстыя й простыя словы:
«са сьвятымі . . . ўпакой . . . Тваіх . . . душы . . .
[рабы . . .
там, дзе несьць . . . ні балесьць . . . ні
[пячаль» . . .
і галовы,
як налітае жыта, хінуліся ўніз.
І ўзноў сьніў Паўла ўсьмешку, узрывы,
[сьвітаньне,
і як выпала люлька, ў крыві, з далані . . .
А сьвятар, хор рыдалі апошнім рыданьнем.
Раптам
сплыў сьцяг із ветрам і . . . «хросны
[Самусь»!
ледзь ня рынуўся ў яму Паўлюк, толькі-ж
[словы:
«Тым, што йдуць паміраць, каб жыла
[Беларусь»
замялі ўзноўку сьвет яму й тых, што ў палове
залатога пяску палеглі за Яе.
Не, такім ён ня бачыў шчэ дзядзьку ніколі . . .
Што-ж . . .
«жыцейскае мора» ужо-ж не пяе
яму песьняў жыцьця, дык спачыў у патолі . . .
Вецер рос і дужэў . . .
Гасьлі сьвечкі ў руках,
каб разьліцца ўзноў жоўтай, трапёткаю
плямай . . .
Аж і лынуў плач вусьцішны вёскай на
[шлях —
засьпявалі апошнюю «вечную памяць».
Ой, і быў гэта плач!
Хто адплакаў яго
ля вясковай царкоўкі над брацкай магілай
у той памятны дзень, —
дай-жа гэткаму Бог
сьлязіны ўжо ніводнай ніколі ня выліць!

. . . . . . . . . . . . . . .

А назаўтрае —
рушылі ў новы паход.
Невясёлы быў ён, як сутунак старэчы.
І калюгі і сэрцы надобра сьцяў лёд:
два ўжо дні білі нашых чырвоныя ў плечы . . .
І вось
бліснула жутла між лозамі Лань . . .
Паўла ведаў — канцы, ды ня важыўся верыць,
што ня даў кон ім выблытацца зь сіла,
адпаўзаюць асочаным, раненым зьверам . . .
Цераз Лань бег бярвеньнем насланы масток.
Густа біў па ім вораг зь цяжкіх кулямётаў,
але трэ' было йсьці,
і пайшлі, мерны крок
не зьмяняючы, строем, за ротаю рота.
Паўла чуў, што аж выскачыць, хіба, з грудзей
яго сэрца й дзівіўся, няўжо ён баіцца?
Кулі-ж білі па іх, па мастку, па вадзе,
рассыпаючы пырскі, маўляў касавіцай
з пад касы стракатлівы дождж конікаў мкнуў.
І пабачыў Паўлюк паўз лазовыя секі,
што вада пачала чырванець . . .
Вось загнуў
першы шэраг, па той бок, за засені вецьця,
парадзелы, зьнік сьледам за першым —
[другі . . .
Але тут —
сталі йрвацца над Ланяй шрапнэлі
і жаўнеры пабеглі . . . Пусьціўшы кругі
па вадзе, нехта кінуўся ў хвалі і целы
зачарнеліся скрозь па рацэ. Да вады
ўрэшце рынуўся й Павал . . .
Хтось моцна, з
[разгону,
чуў яшчэ ён, удэрыў яго і гады
ён кудысьці ляцеў,
аж спачыў пад адхонам
у рудым лазьняку . . .
Хто-ж там зноўку пяе?
Гэта-ж маці . . . Вось . . . ськінула хустку і
[сьцені
над Паўлом заліло зьзяньне — косы яе . . .
Залатыя . . . ў малой . . . залатыя . . . у жмені . .
«Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,
ходзіць ночка па двары,
лічыць зоры у гары,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі.
Сьпі, сыночку, заўтра зноў
зловім сонцава чаўно,
Паплывем ім на загон,
дзе ляжыць пасланы лён,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі.
Укарэў, счарнеў лянок,
як жаўнерык, мой сынок,
люлі-ж, любы, люлі, спаць,
а я буду падпяваць,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі» . . .
Спаў Паўлюк . . .
засыналі й палі пакрысе.
Згас, асыпаўся попелам грукат калёсаў,
тупат ботаў . . . узрывы . . .
сплывацца, гусьцець
сталі чорныя груды бярвеньня над плёсам,
што йшчэ мостам былі кагадзе . . .
Спад маста
выйшла ноч . . . Разгарнула лазоўе над целам,
нізка, нізка сьхіліла ў спагадзе пастаць,
дакранула халоднага йлба, паглядзела
на лазовы дубец у худой далані,
на прымерзлую кроў пад брызентавым
[ранцам,
уздыхнула . . . й мільёны, мільёны грамніц
затрымцелі над Паўлам, над Слуцкім
[Паўстанцам . . .

**Натальля Арсеньнева**

Сяргей ГРАХОЎСКІ

## НАЧЛЕГ

Ці многа патрэбна старому каню?
Касьцёр дагарае, і прысак ачаг,
Наскубся і спутаны стаў ля агню.
Агеньчык мільгае у цьмяных вачах,
На доўгую грыву раса асядае,
І нават чуваць, як трава маладая
Зь зямлі прабіваецца цёплай і волкай,
І пахне сасоньнік празрыстаю смолкай.
Курыцца туман над палянай лясною,
І дрэмлецца добра у лесе вясною
На цёплым кажусе, на першым начлезе
Мне сьніцца — лясун на алешыну лезе,
Трымае ў руках сукаватую палку
І з возера кліча дадому русалку.
У лёгкім тумане, пад месяцам сінім
Яна адгукаецца крыкам гусіным,
На бераг выходзіць, расчэсвае косы,
А зь іх, нібы ягады, падаюць росы.
Скаціліся росы, як дзьве журавіны,
На белыя грудзі знаёмай дзяўчыны,
І голас знаёмы я чую спрасоньня,
Што піць паскакалі да возера коні.
Я вочы расплюшчыў — ля дзікай ігрушы
Бялявыя косы начлежніца сушыць.
«Каму ты у сьне усьміхаўся сягоньня?»
Пытае яна і глядзіць спад далоні.

## ПЕРШАЕ КАХАНЬНЕ

Я першую каханую сваю
Ня зваў на «ты», не цалаваў, ня песьціў,
Я рады быў, што побач пастаю
Ці зноў прыйду на тое-ж месца,

Дзе толькі што сьмяялася яна,
Дзе толькі што яе ляжалі рукі.
І першага каханьня навіна
Была пачаткам радасьці і мукі.

Я сьніў яе, а потым, як у сьне,
Убачыў — каля нашага паркана
Яна ішла, мінаючы мяне,
Ня бачачы, што побач — закаханы.

Яна прайшла, як сонечны прамень,
Над часам, над разлукай, над вайною.
У самы цяжкі і суворы дзень
Яна ішла, здавалася, са мною.

І ёй заўжды было сямнаццаць год,
Яна мне уяўлялася такою,
Што ад яе вачэй растане лёд,
І сэрца не знаходзіла спакою.

І вось сустрэў каханую сваю —
Знаёмы твар, але патухлі вочы.
Не, гэта не яна, яе не пазнаю,
Як верш, што пісаў мінулай ноччу.

**Сяргей Грахоўскі**

# Лісты ў Рэдакцыю

**Вельміпаважаны Сп. Рэдактар!**

Дазвольце ў Вашай паважанай газэце зьмясьціць наступнае:

Пераглядаючы праграмы Беларускай сэкцыі Радыя «Вызваленьне» заўважаюцца характэрныя рысы ў падыходзе радыястанцыі да інтэрпрэтацыі паасобных падзеяў і, адначасна, — да фармаваньня палітычнай сьведамасьці падсавецкага слухача. Няма ніякага сумлеву, што радыястанцыя робіць вялікую карысную справу, намагаючыся інфармаваць падсавецкае грамадзтва аб тым, што дзеецца ў сьвеце і спрастоўваючы хвальш савецкай прапаганды. Але не аб гэтым я хачу сяньня пісаць, але аб тым, што, на маю думку, не пастаўленае на адпаведную вышыню і, мала таго, усьцяж пагоршваецца.

Напачатку адзначым адну агульную няўвязку. З праграмаў «Вызваленьня» відаць, што найменшае разыходжаньне паміж краінамі гэтак званага «сацыялістычнага лягеру» радыястанцыя надзвычай шырока рэклямуе ў сваіх перадачах. Гэтак, напрыклад, Югаславіі, а пазьней падзеям у Польшчы й Вугоршчыне і, напасьледак, спрэчкам паміж савецкім кіраўніцтвам і кітайскім прысьвячалася й прысьвячаецца асабліва шмат увагі. І зусім правільна. У халоднай вайне паміж дэмакратыяй і камунізмам гэтыя падзеі зьяўляюцца, бязумоўна, важным аргумантам і фактам у некарысьць апошняга. Пры гэтым, аднак, у бальшыні выпадкаў, сьведама ці нясьведама, абмінаецца той факт, што ўсе гэтыя падзеі выкліканыя ня стольکі разыходжаньнямі паміж паасобнымі камуністычнымі кіраўнікамі ў інтэрпрэтацыі марксізму-ленінізму, колькі іхнымі нацыянальнымі амбіцыямі — імкненьнем навет камуністых быць незалежнымі ад іншых камуністычных цэнтраў. Гэта асабліва добра відаць з намаганьняў лідэраў камуністычнага блёку — калі ўжо й будаваць сацыялізм ці камунізм, дык абавязкава толькі «сваім собскім шляхам». Гэты нацыянальны мамэнт у перадачах «Вызваленьня» выразна заціраецца.

Яшчэ горш выглядае справа, калі йдзе аб дачыненьні паміж народамі ці цяперашнімі рэспублікамі ўнутры самога Савецкага Саюзу. У гэтым выпадку заўважаецца выразная тэндэнцыя, калі можна так выразіцца, трымаць усе народы СССР у вадным гаршку. Тады, калі ўсе іншыя слабыя месцы й заганы савецкай камуністычнай сыстэмы шырока раскрываюцца перад падсавецкім слухачом, канфлікты паводля нацыянальнага прызнаку не знаходзяць у праграмах належнага адлюстраваньня.

Таго, што ў СССР такія канфлікты існуюць ніхто хіба запярэчыць не адважыцца. Апошнім часам савецкая прэса ўсьцяж паведамляе аб новых забурэньнях у партыйным і дзяржаўным апараце азіяцкіх савецкіх рэспублікаў, абвінавачваючы мясцовыя кіраўніцтвы ў нацыяналізьме й іншых «злачынствах».

А калі «нацыяналізм» пралазіць у звычайна найбольш адданыя цэнтру рэспубліканскія партыйныя апараты, значыць ён існуе ў народзе і ўяўляе сабой запраўды жыцьцяздольную сілу, сілу, якая рашуча супраціўляецца аднэй з галоўных мэтаў савецкае палітыкі — стварэньня новага савецкага чалавека на базе расейскае культуры. Ігнараваць у антыбальшавіцкай прапагандзе гэтае слабое месца бальшавіцкай сыстэмы — гэта проста непрабачальна.

Мала таго, у праграмах «Вызваленьня» можна часта сустрэць такі зварот, як «савецкі народ». Ужываючы яго, выглядае, што, як быццам-бы, кіраўніцтва радыя ўжо прызнае йснаваньне нейкага, канчаткова сфармаванага, адзінага «савецкага» народу. Ці ня лепш на месцы гэтых словаў усюды ўжываць выраз «падсавецкія народы» або «народы СССР»?

Боязьняй ў ваднолькавай ступені закранаць і абмяркоўваць усе слабыя месцы савецкай і ўсяе камуністычнае сыстэмы ды неразважным перайманьнем шкоднай савецкай тэрміналёгіі не канчаецца дзіўная эвалюцыя ў радыёвых праграмах. Сюды даходзіць яшчэ незразумелы страх перад называньнем пэўных фактаў з падсавецкага жыцьця сваімі ўласнымі імёнамі. Вось прыклад:

Чытаючы сёлетнюю праграму, прысьвечаную 25-му Сакавіку, я заўважыў падабенства паміж ёй і праграмай з гэтай нагоды ў мінулым годзе. Зьверыўшы, я пераканаўся, што гэта быў паўтор мінулагодняе праграмы. Паўтор, ды ня зусім, бо былі «маленькія» зьмены. Яны датычыліся слова «русыфікацыя». У пару мясцох сёлетняй праграмы мінулагодняя «русыфікацыя» была чамусьці замененая «дэнацыяналізацыяй». Нельга сказаць, каб «русыфікацыя» й «дэнацыяналізацыя» былі сынонімамі. Розьніца значэньня гэтых словаў зусім відавочная, і абодва яны сваё значэньне самі зусім выразна акрэсьліваюць. «Дэнацыяналізацыя» — гэта пазбаўленьне чалавека ці народу ягоных нацыянальных асаблівасьцяў, звычайна, без падмены іх іншымі, тады калі «русыфікацыя» зусім ясна азначае сьведамае ці падсьведамае перайманьне расейскіх нацыянальных адзнакаў або — што найчасьцей сустракаецца ў практыцы — дзяржаўную палітыку пасьлядоўнага навязваньня гэтых адзнакаў іншым народам, ня гледзячы на супраціў з боку апошніх.

(Такія «тэарэтычныя» разважаньні могуць здавацца непатрэбнымі — мне яны такімі й здаюцца — але ў сувязі з тэмай, якую тут закранаем, яны не пашкодзяць.)

У разгляданым выпадку справа датычылася бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі на Беларусі. У мінулагодняй праграме яна характэрызавалася, як «русыфікатарская», а ў сёлетняй — як «дэнацыяналізатарская». Судзячы па тым, што з усяго тэксту перадачы Беларуская Рэдакцыя палічыла патрэбным зрабіць толькі гэтую зьмену, можна меркаваць, што: або Рэдакцыя ўважае, што яна ў мінулым годзе памылілася, або, што яна ўважае, што за год зьмянілася савецкая нацыянальная палітыка ў дачыненьні да Беларусі, або, што з нейкага боку быў зроблены нейкі ціск, каб гэтую зьмену ўвесьці ў тэксты перадачаў.

Выясьніць гэта зможа найлепш кіраўніцтва Беларускай Рэдакцыі, чаго я спадзяюся. Паколькі, аднак, Беларуская Рэдакцыя ў сваіх перадачах часта спасылаецца на «свабодны голас беларускае эміграцыі ў вольным сьвеце», я, як адзін з свабодных эмігрантаў, хачу дапоўніць мае меркаваньні, выказаныя вышэй, заняўшы голас і ў гэтай справе.

На маю думку, Рэдакцыя ў мінулым годзе не памылілася, назваўшы бальшавіцкую нацыянальную палітыку на Беларусі «русыфікатарскай». Што гэтая палітыка зьяўляецца якраз такой, бачыць кажны здаровадумаючы чалавек. Аргумантаў у доказ гэтага прыводзіць хіба ня трэба; хто гэтым цікавіцца — знойдзе іх у любой колькасьці. А Рэдакцыя-ж, хіба, цікавіцца?.. За мінулы год і савецкая нацыянальная палітыка не зьмянілася, і называюць яе цяпер неадпаведным словам — «дэнацыяналізацыя» заместа «русыфікацыя» — няправільна й шкодна з кажнага гледзішча.

З глыбокай пашанай —

**М. Бурбіцкі**

*

**Паважаная Рэдкалегія!**

У артыкуле др. Ст. Станкевіча «Сярод суродзічаў у Амэрыцы» ёсьць шмат недакладнасьцяў, што, парадзіўшыся із старшынямі арганізацыяў і прыватнымі асобамі, хацелася-б спраставаць. Зразумела, тут ня віна самога аўтара, але тых, што кепска паінфармавалі. Але ёсьць нясьлушныя цьверджаньні й самога аўтара ўспомненага артыкулу. Вось др. Ст. Станкевіч піша, што яму асабіста ўдалося пераканацца, што калі зь Нью Ёрку час ад часу Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне атрымоўваў матар'яльную дапамогу, дык з Кліўленду бадай што ніколі. У Кліўлендзе кажнага году зьбіраецца грашовая дапамога суродзічам у Нямеччыне й перасылаецца ў Галоўную Ўправу БАЗА ці Жаночае Згуртаваньне ў Нью Ёрк, адкуль яны разам пасылаюць. Таксама высылаліся пачкі із вопраткай. Тут ня ведама, чыя віна, ці ў Нямеччыне блытаюць Галоўную Ўправу БАЗА зь мясцовым аддзелам ці Галоўная Ўправа й пасылае, як ад Нью Ёрку. Апошні выпадак можа быць хутчэй, бо калісьці Г. У. БАЗА аплачвала «Беларускую Хатку», зь якой карыстаўся толькі мясцовы аддзел, у той час, калі Кліўленд мусіў шмат больш плаціць за рэнт залі, рэнт Царквы, дэрыгенту і г. д. Гэта й адкажа якраз на пытаньне, чаму Кліўленд не пасылаў часам у Г. У. БАЗА складак. Пасьля такіх закідаў можа зьменшыцца ахвярнасьць на дапамогу ў Нямеччыне, калі гэта справа ня выясьніцца.

Далей аўтар кажа, што яны (Кліўлендцы) жывуць у васнаўным собскім кліўлендзкім замкнутым жыцьцём. Зусім ня так! Кліўленд аб'езьдзіў амаль усе беларускія асяродкі, пераважна за свой кошт, памагаючы іншым асяродкам, чаго ня робіць Нью Ёрк. Тут нельга закідаць «лякальнага патрыятызму». Кліўленд цікавіцца агульным беларускім жыцьцём, хоць мае шмат перашкодаў у працы ў сваім асяродку. Мне здаецца, што гэты «лякальны патрыятызм» можна хутчэй закінуць ньюёркаўцам, якія зусім не памагаюць меншым асяродкам. Ім здаецца, што за Нью Ёркам ужо канец сьвету й нічога ня йснуе ды ня робіцца. Калі выбіралі Г. У. БАЗА зь сядзібай у Нью Ёрку, то яна замест аднасіцца да ўсіх аддзелаў аднолькава й клапаціцца аб іх разьвіцьці, займалася лякальнай працай, як ладжаньнем акадэміяў і інш.

Таксама сказана недакладна, што праца праводзіцца толькі ўнутры калёніі. Пра Беларусаў хіба найбольш ведаюць у Кліўлендзе. Выступы на розных інтарнацыянальных канцэртах, розных імпрэзах, артыкулы ў прэсе, спартовыя дружыны й г. д. — гэта ўсё пашырае імя Беларуса між чужынцамі. Прыкладам пра валейбольную дружыну пішуць у найбольшай газэце кажнага тыдня, да гэтага каля 35-ці спартовых клюбаў добра ўжо знаёмыя зь Беларусамі. Можна было-б зрабіць шмат больш, але не стае адпаведных працаўнікоў, а студэнты не актыўныя і ў Кліўлендзе, што не згаджаецца з цьверджаньнем аўтара артыкула.

Што тычыцца лювэнскіх «арлоў» і што яны, як піша аўтар, грамадзка бязьдзейныя, за выключэньнем аднаго адзінага, то тут цяжка згадзіцца таксама. У нас ёсьць зь Львювэну сп. М. Ягаўдзік, які вельмі акуратна й аддана працуе ў Царкоўным Камітэце, але-ж бальшыня зь іх бязьдзейныя, бездапаможныя, якія ня прыносяць ніякай карысьці для беларускай эміграцыі, навет ня плацяць складак, а глядзяць, каб нехта апякаваўся імі й далей. Відаць у «лювэнскай кузьні» іх кавалі, але не загартавалі.

Лічу непатрэбным успамінаць драбнейшыя рэчы, як тое, што Беларусы жывуць на заходняй часьці гораду, а не на ўсходняй.

З пашанай да Вас —

**Ул. Д.**

# РЭХА САКАВІКОВЫХ СЬВЯТКАВАНЬНЯЎ

## Лёндан (Ангельшчына)

Сёлета нашае нацыянальнае сьвята ладзілі супольна Ангельска-Беларускае Таварыства й Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі ў Мар'ян Гаўз 30 сакавіка, на другі дзень каталіцкага Вялікадня.

Згодна з прадбачанай праграмай перш адбылася ўрачыстая Літургія за Беларусь у царкве Беларускай Каталіцкай Місіі, наступна — акадэмія й скромнае прыняцьце.

У часе Багаслужбы прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Пікарды. Айцец Сіповіч меў два прынагодныя казаньні, адно ў ангельскай мове, а другое ў беларускай. Ён таксама адчытаў ліст Я. З. Біскупа Слосканса, Апостальскага Адміністратара Магілеўскага й Менскага, а таксама Апостальскага Візытатара для Беларусаў на чужыне. Біскуп Слосканс нядаўна (5 сакавіка сёлета) быў прыняты на адумысловай аўдыенцыі Папам Янам XXIII. На той-жа аўдыенцыі Айцец Сьвяты быў ласкаў праз нашага Апостальскага Візытатара пераслаць беларускаму каталіцкаму духавенству й вернікам сваё Апостальскае Багаславенства.

Пасьля кароткага перапынку распачалася акадэмія. У залі, прыбранай ангельскімі й беларускімі сьцягамі, пачэснае месца занялі за сталом сп. А. Гэрбэрт, заступнік старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства й сп. сп. Ул. Бутрымовіч і П. Навара. Сп. Ул. Бутрымовіч прывітаў усіх прысутных, а таксама падзякваў арганізацыям і асобам, якія пераслалі прывітаньні для ЗБВБ з нагоды 25 Сакавіка. Далей прамаўляў сп. Гэрбэрт. Між іншага, ён сказаў, што лёс усіх імпэрыялізмаў аднолькавы: перш растуць коштам слабейшых народаў і дзяржаваў, а пасьля развальваюцца. Гэтак яно будзе й з расейска-бальшавіцкім імпэрыялізмам.

У канцы сваё прамовы сп. Гэрбэрт папрасіў сп. Лівіцкага, Старшыню Ўкраінскай Нацыянальнай Рады, да прэзыдыяльнага столу. Сп. Лівіцкі горача вітаў усіх Беларусаў і чужынцаў з нагоды беларускага нацыянальнага сьвята перш паўкраінску, а пасьля пафранцуску.

Даўжэйшы даклад аб Беларусі й аб Акце 25 Сакавіка прачытаў сп. Навара, пасьля чаго распачалася мастацкая частка.

Спадарыні Рыч — дачка й маці — абедзьве ў прыгожых беларускіх нацыянальных вопратках, адчыталі дыялёгам арыгінальны твор напісаны паэткай Верай Рыч і прысьвечаны Беларусі. Наступна адна зь іх прачытала частку з паэмы «Сымон Музыка» тэй-жа Верай Рыч перакладзеную на ангельскую мову.

Сп-ня Кажаневіч памастацку адыграла бальляду Шопэна й «Польку Янку» Карповіча.

Скромнай пачосткай і гулямі, сярод якіх не бракавала й качаньня яек, закончылася сьвяткаваньне.

Сярод шматлікіх прысутных быў так-жа адумысловы прадстаўнік ад БіБіСі й карэспандэнты некалькіх лёнданскіх газэт.

Сёлетняе сьвяткаваньне 25 Сакавіка розьнілася ад папярэдніх тым, што нашы сябры Ангельцы ня былі толькі пасыўнымі гасьцямі, а праявілі свой актыўны ўдзел і гэтым самым спрычыніліся да шырэйшага прапагаваньня нашага ймя й культуры.

**А. Дзедзінка**

---

**Ліхтароў:** Справа ў тым, што мы банкруты, што ўсе рахункі нашы ў банку арыштаваны, што мы цяпер засталіся без капейкі грошай, бо крэдытныя плацяжы мы ня выплацілі ў тэрмін. Як мы будзем весьці гаспадарку без капейкі?.. А?.. Дайце мне сесьці. Ногі баляць — дваццаць пяць установаў абыйшоў.

**Кавальчук:** Спакойна! Спакойна, Мікалай Кузьміч! У каго ты быў? Зь кім гаварыў?

**Ліхтароў:** Амаль усіх па кругу абыйшоў... У райфа — толькі рукамі разводзяць. А Гудзеева Хрыстом-Богам прасіў — лёд, камень. Дзяржава — не таварыства дабрачыннасьці. У нас усё падпарадкавана плянам. Па пляну далі крэдыт, па пляну й плацеце. Кропка. Кро-опка! Хоць плач...

**Цярэшка:** Не таварыства дабрачыннасьці? Гудзееў так сказаў?

**Ліхтароў:** Адрэзаў, а не сказаў.

**Цярэшка:** А мы на яго падтрымку спадзяваліся. Яшчэ воз сена ўпёрлі.

**Кавальчук:** (Ліхтарову): Няўжо ніякага выйсьця?

**Ліхтароў:** Ніякага.

**Кавальчук:** А падумаўшы?

**Ліхтароў:** Усе грашовыя апэрацыі праводзіць бязь ведама дзяржбанку? Усе выручаныя грошы пускаць у абарот без кантролі банку? Рызыкоўны выхад.

**Кавальчук:** Та-ак, гэта ня выхад, а ўваход. У пракуратуру, а адтуль безь перасадкі ў турму. Крымінальная справа!

**Цярэшка:** Не, ужо лепей з гэтым ня зьвязвацца!

**Кавальчук:** Але нам трэба грошы... Грошы, грошы... Сяньня-ж, заўтра... Без абаротных сяродкаў нам не разблытаць гэты вузел. Давядзецца рызыкаваць.

**Ліхтароў:** Цімафей! З гэтым не жартуюць!

**Кавальчук:** Так, з гэтым не жартуюць. Я й не жартую.

**Ліхтароў:** Я рызыкаваць не хачу.

**Кавальчук:** Ня бойся. Цябе падводзіць ня зьбіраюся. І другі подпіс на сябе бяру.

**Цярэшка** (як-бы выпрабоўвае): А не шкада сваю галаву падстаўляць пад абух?

**Кавальчук:** А ты пад Сталінградам сваю не шкадаваў?

**Цярэшка:** Там было другое. Пералом трэба было зрабіць.

**Кавальчук:** І тут пералом трэба.

**Ліхтароў:** Лепей ужо зьезьдзіць у міністэрства... Папрасіць яшчэ раз крэдыт, апошні раз...

**Кавальчук:** Такіх аматараў на крэдыт, як мы, — нямала. Дый часу на гэта пойдзе месяц, два. А нам сяньня грошы трэба, заўтра... Усё! Заклёпана! Да восені. А там лён выручыць нас, і разьлічымся зь дзяржавай. Адмерана й адрэзана!

**Цярэшка:** Будзем прадаваць бычкоў?

**Кавальчук:** Правільна. І ялавых кароў. Ідзі, выбірай на рынак. Заўтра-ж.

**Цярэшка:** Эх, што будзе, то будзе. Адказваць разам давядзецца. (Намерыўся йсьці.)

**Кавальчук:** Чакай! Ня ўсё. Нам цяпер кажная капейка даражэй за рубель. Мікалай Кузьміч, што ты параіш? От, скажам, быў чалавек загадчыкам фэрмы. Ну, і, зразумела, аддалі ў ягонае распараджэньне кармы: сена, салому, й другое, што там было... А ён узяў наклаў воз сена й за здорава жывеш завёз яго, скажам, райпляну Гудзееву.

**Ліхтароў:** Спагнаць! Па рыначнай цане.

**Кавальчук:** З каго?

**Ліхтароў:** З загадчыка фэрмы, вядома.

**Цярэшка:** А калі, скажам, загадчыку фэрмы даў распараджэньне старшыня?

**Ліхтароў:** Без рашэньня праўленьня ці агульнага сходу такое распараджэньне незаконнае.

**Цярэшка:** Дык выходзіць, што старшыня ў калгасе — не гаспадар?

**Кавальчук:** Кажны калгасьнік — гаспадар.

**Ліхтароў:** А загадчык фэрмы — матар'яльна адказная асоба.

**Кавальчук:** Ясна. (Цярэшку.) Ну дык што, Церах? Нам цяпер кажная капейка дорага. Вернеш ад Гудзеева доўг, ці зь цябе спагнаць?

**Цярэшка:** Ды што ты, старшыня? За што зь мяне?

**Кавальчук:** За воз сена.

**Цярэшка:** Калі так — за мной не прападзе... Мы таксама — не таварыства дабрачыннасьці... Не-е... Я яму...

**Кавальчук:** Вось гэта — пагаспадарску!

Пад'яжджае на самакаце ўчастковы міліцыянэр Дабрыла. Вітаючыся, казырае ўсім.

**Дабрыла:** Добрага здароўя!

**Ліхтароў:** Церах Іванавіч! А калі Гудзееў будзе адмаўляцца, упірацца, дык вазьмі сабе ў памочнікі вось гэтага вусатага грэнадзёра.

**Дабрыла:** А што такое? Заўважылі беспарадак?

**Ліхтароў:** Прысваеньне калгаснае маёмасьці, так сказаць.

**Дабрыла:** Функцыя мая, так сказаць. А што? Крадзеж, злоўжываньне, ці блат?

**Цярэшка:** Усё разам. Начальства ўзяло воз сена калгаснага, а заплаціць забылася.

**Дабрыла:** Ясна. Артыкул 196 прым УК БССР. А хто?

**Цярэшка:** Сам Гудзееў.

Дабрыла адкашляўся.

Што? Здрэйфіў?

**Дабрыла:** Міліцыі дрэйфіць не паложана.

Падыходзіць Аксіньня.

**Аксіньня:** Ты што гэта, старшыня, кантору сьцеражэш? Ня бойся, не ўцячэ. Прывык там, у Менску, штаны праседжваць. Не, дарагі ты наш старшыня, пара адвыкаць! Гаспадары так ня робяць. Сярод людзей трэба бываць і наглядаць — што і як яны робяць.

**Кавальчук:** Ты, Аксіньня, давай без артпадрыхтоўкі. Што здарылася?

**Аксіньня:** Пакуль ты тут сядзіш ды мазалі на крэслах націраеш, насенную бульбу раскрадуць.

**Кавальчук:** Раскрадуць?

**Аксіньня:** Ну, расьцягнуць. Ня ўсю, дык палавіну. Перабіраем там, каля капцоў — наглядзелася. Кажная баба, на абед ідучы, у прыполе нясе, вечарам, з работы йдучы, таксама цягне. Не багата, штук дваццаць, ня болей. А колькі іх, а возчыкі? Глядзіш — і па пуду пад саломай каторы вязе. Разбагацее калгас, калі ўсе так цягаць станем? Хоць-бы хто прыкрыкнуў ці слова сказаў! Бязьбацькаўшчына была, бязбацькаўшчына й ёсьць!

**Кавальчук:** А хто іменна так раскрадае?

**Аксіньня:** Здароў будзь, старшыня! Яшчэ чаго не хапала! Можа, яшчэ загадаеш мне арыштаваць каторага? Скажы дзякуй, што так падказала. А за руку лавіць, выбачайце, ня буду. Ты — гаспадар, ты й лаві.

# Рэха Сакавіковых Сьвяткаваньняў

ня аўтара зьлеплены з радкоў розных вершаў і заканчаны звароткай А. Змагара. Таксама трэба падаваць аўтара словаў і музыкі кажнае песьні. Мастацкая частка з такімі недарэчнасьцямі не павінна адбывацца навет дзесьці ў цёмнай вёсцы, а тут-жа ёсьць людзі, што знаюцца на рэчах. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**Ул. Д.**

## Лёс Анджэлес (ЗША)

З павялічэньнем беларускае калёніі ў Лёс Анджэлес і ягоных ваколіцах, узмоцнілася й жаданьне некаторых яе сяброў, каб праяўляць тут большую беларускую нацыянальна-грамадзкую актыўнасьць. Пасьля абмену думкамі й паглядамі паміж прыхільнікаў розных групаў, ініцыятыўнай групай быў выбраны аб'яднаны сьвяткавальны камітэт дзеля адзначэньня Дня 25 Сакавіка на аснове ўзгодненага пляну. Запросіны на сьвяткаваньне былі высланыя ўсім навакольным знаёмым суродзічам. Вялікая была радасьць, што ўдзельнікаў сьвяткаваньня сабралася ў два разы больш, як у мінулым годзе.

Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 22-га сакавіка, у тым самым уласным доме й той самай беларускай сям'і, што й летась.

Беларускі й амэрыканскі сьцягі абапал прыгожа намаляванае Пагоні ды букет красак на засланым стале, адразу выклікалі прыемны сьвяточны настрой. Малюнак Пагоні быў выкананы маладым і здольным студэнтам мастацтва Валерым Клішэвічам, старшым сынам беларускага паэты Ул. Клішэвіча.

Гаспадар дому прывітаў сьвяточны сход, падчыркваючы, што ЗША прыхільна адносяцца да сьвята 25 Сакавіка. Сьвяточнай праграмай кіраваў старшыня сьвяткавальнага камітэту. Прыгожую патрыятычную малітву ў паэтычнай форме ўсе прысутныя выслухалі стоячы. Узварушаюча гучэлі словы: «Магутны Божа,... зрабі шчасьлівай Краіну нашу і наш Народ».

Прывітаньні й пажаданьні ад губэрнатара Каліфорніі й мэра Лёс Анджэлес былі ўзнагароджаны дружнымі воплескамі. Вельмі ўдалы й арыгінальна-прыгожы рэфэрат — «Сорак адзін год пад сьцягам Сакавіка» — жыва й пачуцьцёва прачытаў ведамы наш паэта Ул. Клішэвіч. Падыйшоў ён да тэмы запраўды із сваёй гарачай, шчырай патрыятычнай душой і сэрцам. Рэфэрат слухаўся зь лёгкасьцяй, дзякуючы добрай дыкцыі паэты. Аснова рэфэрату была памастацку пераплецена значнымі, праграмнага характару, найпрыгажэйшымі да тэмы цытатамі з нашых найбольшых волатаў беларускага адроджанага мастацкага слова Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Пасьля рэфэрату ўставаньнем і хвілінай маўчаньня ўдзельнікі сьвяткаваньня ўшанавалі памяць усіх загінуўшых у змаганьні за рэалізацыю Акту 25 Сакавіка.

Пачаткам мастацкай часткі быў выступ дачкі сям'і Грамыкаў, Веры, якая адыграла на скрыпцы вальс «На хвалях». Пасьля гэтага другая маладая Беларуска — вучаніца пачатковай школы — Сабіна Кананові́ч прадэклямавала верш Я. Купалы «За праўду». Затым выступіла добра ведамая пяюня беларускіх народных песьняў — паважаная сп-ня Марыя Меленьцева, якая прапяяла на пачатак песьню «Адна, ізноў адна», гарманізацыі Галкоўскага, словы К. Буйлы, пад акампаніямэнт на акардыёне сп. Алімпа Меленьцева. Выступ спадарства Меленьцевых быў мілай неспадзеўкай для ўсіх, бо-ж ведама было, што яны даўжэйшы час мусілі папраўляць сваё аслабленае здароўе. Дзьве іншыя песьні ў іхнім мастацкім выкананьні — «Астры», словы М. Багдановіча, і танго «Васількі» кампазыцыі М. Куліковіча моцна ўсхвалявалі слухачоў. Моцнымі воплескамі быў ўзнагароджаны бязінтэрэсоўны ўдзел спадарства Меленьцевых у сьвяточнай праграме. Гэтым прыгожым аступкам яны запраўды заслужылі на шчырую ўдзячнасьць беларускай грамады, якая бачыць у іх прыяцеляў беларускай песьні й музыкі.

Верш Крота «Паміж жыта» прыгожа прадэклямаваў Алёша Клішэвіч. Былі вельмі мілымі й дэклямацыі беларускіх вершаў дзьвёх малых сястрычак Ірэны й Нюсі Стусаў. На заканчэньне мастацкае часткі сп-ня Ф. Кананові́ч прадэклямавала верш Я. Купалы «Прарок».

Праграма закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пачастунак прайшоў у вельмі вясёлым настроі. Сп-ня М. Міленьцева яшчэ прапяяла солё некалькі беларускіх народных песень: «А дзе я радзілася — ня была», «Хлопец пашаньку пахае» й інш., а сп. к. Меленьцеў доўга весяліў усіх музыкай на акардыёне. Сп. Клішэвіч шчодра «частаваў» усіх сваёй найнавейшай паэтыцкай творчасьцяй.

Пры разьвітаньні чуліся галасы захапленьня й агульнага задаваленьня з удала наладжанага сьвяткаваньня. Сёлетні Дзень 25 Сакавіка ў Лёс Анджэлес з усіх разоў найбольш ярка паказаў, як моцна патрэбнае нам аб'яднаньне й як карысным яно зьяўляецца для ладжаньня беларускіх імпрэзаў.

**Сьвяткавальны камітэт**

## Адказы Рэдакцыі

**Сп. Брачыславу Скарынічу, Нью Ёрк, ЗША):** З прысланага матарыялу, як бачыце, карыстаем і моцна дзякуем. Із запрапанаваных далейшых матарыялаў з «Жывой газэты» Культурна-асьветных вечароў будзем таксама ахвотна карыстацца. У справе друкаваньня падвалам «Жаролы да гісторыі Беларусі» і «Агульныя працы зь гісторыі Белаарусі» паведамім пазьней асобным лістом, як высьнім гэтую справу дакладна. Зь перададзенага раней артыкулу «Нашто і як зьбіраць беларускія геаграфічныя й асабовыя назовы» Рэдакцыя, нажаль, скарыстаць ня можа, з гледзішча на тое, што гэта ня зусім газэтны матарыял, як і на тое, што ў эміграцыйных умовах жыцьця вельмі цяжка, а часта й немагчыма зьбіраць беларускія геаграфічныя й асабовыя назовы. Таму гэны нумар «Роднае мовы», у якім зьмешчаны менаваны артыкул, адсылаем назад звычайным упісаным лістом.

**Сп. А. Б. (Нью Ёрк, ЗША):** Абяцаны Вамі артыкул аб Першым Усебеларускім Кангрэсе й Акце 25-га Сакавіка на падставе матарыялаў газэты «Гоман» атрымалі сваячасова, які будзе зьмешчаны ў вадным з наступных нумароў газэты. Вельмі дзякуем за цэннае супрацоўніцтва.

**Сп. Міхасю Кавылю (Саўт Рывэр, ЗША):** «Вянок санэтаў» пад загалоўкам «Чорны лёд» атрымалі й зьмесьцім у вадным з наступных літаратурных дадаткаў «Бацькаўшчыны«. Вялікае дзякуй.

### 10 год таму „Бацькаўшчына“ пісала:

У нядзелю 10 красавіка ў Мюнхэне на Кэнігспляцы адбыўся вялікі міжнацыянальны мітынг паняволеных бальшавізмам народаў супраць перасьледваньня рэлігіі й супраць канцлягераў у СССР. У ім прынялі ўдзел і Беларусы.

*

20 сакавіка сёлета адбыўся ў Лёндане 3-ці агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі, на які зьехаліся з усяе Ангельшчыны 74 дэлегаты з правам пастанаўляючага голасу.

№ 10 (54), 20 красавіка 1949 г.

## Парыж (Францыя)

22-га сакавіка Беларусы Парыжу ды ягоных ваколіцаў належна і ўрачыста адсьвяткавалі 41-я ўгодкі зь дня абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

А 11-ай гадзіне раніцы ў беларускай капліцы сьв. Людовіка адбылася сьвяточная літургія, падчас якое ўсе вернікі супольна ўзьнясьлі малітву за Беларусь ды наш шматпакутны Беларускі Народ. Глыбокае маленьне, натхнёнае служэньне ды прынагоднае казаньне а. Маскаліка пакінулі незабыўна-хвалюючы сьлед у сэрцах вернікаў-Беларусаў.

У гэты-ж дзень, а 15 гадзіне, у вялікай залі будынку C.F.T.C. адбылася ўрачыстая Сакавіковая акадэмія. У гэтай сьвяточнай акадэміі, што была наладжаная зь ініцыятывы беларускае сындыкальнае сэкцыі работнікаў пры C.F.T.C., прынялі ўдзел значная колькасьць Беларусаў ды група запрошаных гасьцей. Асаблівую ўрачыстасьць сьвяткаваньню надала прысутнасьць Прэзыдэнта Рады БНР сп. інж. М. Абрамчыка.

Урачыстую частку адчыніў кароткай, але зьмястоўнай прамовай у французскай мове старшыня беларускае сэкцыі C.F.T.C. сп. М. Наумовіч, які вытлумачыў прысутным сутнасьць ды агульнаважнае значэньне Акту 25 Сакавіка. Пасьля яго, із словамі шчырага прывітаньня ды пажаданьнямі супрацоўніцтва між паняволенымі народамі, выступіў старшыня харвацкае сэкцыі C.F.T.C.

Сп. В. Міцкевіч зрабіў вельмі цікавы прынагодны рэфэрат, у якім, абмінуўшы гістарычныя асновы Акту 25 Сакавіка, закранаў актуальную тэму з мэтаў ды надзеяў сяньняшняе беларускае эміграцыі ў сувязі з 41-мі ўгодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. «Нас называюць нацыяналістымі, — сказаў ён, між іншага, — толькі за тое, што мы, як і іншыя народы мужна змагаемся за сваю незалежнасьць. Мы не саромеемся гэтага назову ды будзем гэткімі да таго часу, пакуль наша Бацькаўшчына ня станецца вольнаю, а народ наш — роўным паміж роўных». Вельмі зьмястоўны рэфэрат, як і малады запал самога прамоўцы ды ягоная гарачая вера ў хуткае вызваленьне нашае Бацькаўшчыны, перадаліся настрою прысутных, які быў выказаны гучнымі воплескамі ў адрас прамоўцы.

Выступ сп. Прэзыдэнта Рады БНР М. Абрамчыка быў таксама падбадзёрваючым, сьціпла-актуальным. Адзначыўшы вялікую працу нашае эміграцыі, якая, за кароткі пасьляваенны час спрычынілася да прыхільнае зьмены палітычных паглядаў Захаду ў дачыненьні лёсу нашага паняволенага народу, сп. Прэзыдэнт, адначасна з гэтым выказаў сваё глыбокае перакананьне ў тым, што ўжо недалёкі той дзень, калі Беларусь станецца вольнаю й незалежнаю дзяржаваю.

Урачыстая Сакавіковая акадэмія закончылася мастацкаю часткай, у якой прынялі ўдзел сп-ва К. і сьпявак В. Жаўняровіч, ды сьціплым пачастункам.

**Аўген Кавалеўскі**

## Рым (Італія)

Невялікі гурток Беларусаў у Рыме сёлета адзначаў угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі больш сьціпла як у папярэднія гады, бо гурток наш значна зьменшыўся, але сутнасьць сьвяткаваньня гэтага вялікага беларускага Нацыянальнага Дня нічуць ня зьменшылася.

У самы дзень 25 Сакавіка Ватыканскае Радыё передавала адумысловую аўдыцыю ў рамах беларускіх радыяперадачаў. На тэму дня прамаўляў а. Леў, аналізуючы падзеі за мінулыя 41 год і выказваючы непахіснае перакананьне, што акт 25 Сакавіка бязумоўна зьдзейсьніцца.

А ў дзень 31 Сакавіка перад копіяю цудатворнае іконы Жыровіцкае Маці Божае ў царкве айцоў Базыльянаў была адпраўлена Служба Божая за Беларусь, на якой акрамя Беларусаў прысутнічалі так-жа нашы прыяцелі з суседніх народаў. Папалудні гэтага дня ў памешканьні кс. д-ра Татарыновіча гурток Беларусаў і нашых бліжэйшых прыяцеляў наладзілі беларускі вечар, дзе ў шчырай сяброўскай атмасфэры праслухалі канцэрт беларускіх народных песень і мэлёдыяў.

**Рымлянін**

## Сыднэй (Аўстралія)

30-га сакавіка дружная беларуская грамада сабралася ў Сыднэі, каб адзначыць вялікі дзень Сакавіковага Акту.

У адумыслова прыбранай залі выступіў з рэфэратам гістарычнага зьместу др. Я. Малецкі. У рэфэраце разглядалася таксама й сучаснае палажэньне як на Бацькаўшчыне, так і тут у нашых эміграцыйных радох.

Пасьля рэфэрату прысутныя праслухалі рад дэклямацыяў беларускіх патрыятычныі вершаў. Тут выступіў і 5-гадовы Юрка Качанок, дэклямуючы вершык «У роднай старонцы».

Пасьля акадэміі прысутныя заселі за супольны падрыхтаваны стол, дзе ў вольнай таварыскай гутарцы дзяліліся сваімі ўспамінамі й меркаваньнямі. На ахвярную лісту ў фонд 25 Сакавіка было сабрана 5 фунтаў і 15 шылінгаў. За падрыхтоўку гэтага ўдалага вечару належыцца вялікая падзяка спадарыням Лужынскай, Качановай і Сіткоўскай.

**Я. Л.**

### УВАГА, БЕЛАРУСЫ МЭЛЬБУРНУ!

Пры Згуртаваньні Беларусаў у Вікторыі зарганізавана беларуская бібліятэка, карыстацца якой запрашаюцца ўсе нашы суродзічы.

Адрас бібліятэкі:
1, Swift St., Northcote

### ПОШУКІ

Захаркевіч Іван шукае **Буневіча Ўладзімера**, нар. у 1920 г у вёсцы Мокрава, Лунінецкага раёну, вывезенага ў 1943 г. гэстапам у Нямеччыну (былі чуткі, што, быццам, у Шчэцін). Весткі ветліва просіцца слаць на наступны адрас:

Jan Zacharkiewicz
2618 W 17 Str.
Chicago, Ill., USA

**ХТО ЯШЧЭ НЕ ПАДПІСАЎСЯ НА ЗБОРНІК ПАЭЗІІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА, ПАВІНЕН ЗРАБІЦЬ ГЭТА БЕЗАДКЛАДНА!**
**ЦАНА АДНАГО ЭГЗЭМПЛЯРА ЗБОРНІКА — 3 ам. даляры.**

**13 сакавіка сёлета ў Англіі адыйшоў на вечнасьць**

**Сьв. Пам. ГАЛЬЛЯШ ШКЛЯНІК**

**Сьмерць на атаку сэрца заўчасу прыпыніла Ягонае жыцьцё ў веку 55 гадоў.**

**Памерлы быў ня толькі сьведамым, але й шчырым змагаром і патрыётам. Належаў да беларускае арганізацыі й быў адным з найахвярнейшых вернікаў БАПЦ у Вялікабрытаніі. Адзначаўся пабожнасьцяй, ветлівасьцяй, шчырасьцяй, развагаю й дабратою. Жывучы ў іншанацыянальным лягеры, заўсёды годна рэпрэзантаваў Беларусаў.**

**Пахавіны, пры лічным удзеле Беларусаў з Манчэстэр і жыхароў лягеру, дзе нябошчык стала пражываў, адбыліся 17 сакавіка на ангельскім могільніку Грэт Будворч каля Нартвіч.**

**Паніхіду па нябошчыку адправіў а. пратаярэй Аляксандар. Апрача пачуцьцёвага разьвітальнага слова а. Аляксандра, прыгожае патрыятычнага зьместу слова сказаў сп. Кажаневіч.**

**Найбольшым лятуценьнем Сьв. Пам. Шкляніка было вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб пабачыць сям'ю, аднак ня суджана было яму гэта зьдзейсьніць.**

**Няхай-жа Яму будзе лёгкай гасьцінная ангельская зямелька, а Госпад Бог упакоіць Ягоную душу, дзе супачываюць усе праведнікі.**

**Вікарыяльная Ўправа БАПЦ і сябры Аддзелу ЗБВБ Манчэстэр.**

## Беларуская Масьлянка

14-га сакавіка 1959 г. у памешканьні Беларускага Грамадзкага Цэнтру Жаночая Сэкцыя пры БАЗА ладзіла беларускія запускі — масьлянку. На гэтую традыцыйную беларускую імпрэзу заклікалі ўсіх каляровыя прыгожыя плякаты-абвесткі, разьвешаныя раней у памешканьні Бел. Гр. Цэнтру. Суродзічы адгукнуліся й зьявіліся ў вялікай колькасьці на сьвяткаваньне запускаў.

Не малая сямейка засела за 14 сталамі прыгожа накрытымі й застаўленымі халоднымі закускамі. Гаспадхнзкі ўвіхаліся ў кухні, дзе:

«апалонік то і дзела
Па дзежцы бегаў жвава, сьмела,
І кідаў цеста ў скавародкі.
Давала піск яно кароткі,
Льлючыся з шумам на патэльні
І ў зар стаўлялася пякельны;
І там зь яго ў вачавідкі
Пякліся гладзенькія пліткі
Блінцоў, спаднізу наздраватых
У гору пышна, пухла узьнятых...

І блінцы з патэлень вандравалі на сталы — а да блінцоў была й верашчака з каўбасой, рэбрынкамі й тварог із сьмятанай.

Настрой стварыўся радасны, вясёлы. Да гэтага спрычынілася таксама й маленькая мастацкая гумарыстычная частка: беларускі лубок — заўсёды прыйманы цёпла гледачамі; выконвалі яго (сьпявалі) сп-ня В. Бартуль і сп-р Я. Запруднік, далей — гумарэска «Пан і акуляры» Паўловіча, выкананая праз сп-роў А. Несьцяровіча і Я. Запрудніка.

Скакалі пад кружэлкі з патэфону, некаторыя жанчыны былі апранутыя ў беларускую нацыянальную вопратку, хоць шкада, што ў мяншыні. Кшчэ ня ўсе, нажаль, Беларускі Жаночае Арганізацыі разумеюць якім бясцэнным скарбам зьяўляецца нашая нацыянальная вопратка й які ганаровы абавязак ляжыць на нас тут на чужыне, абавязак рэпрэзэнтаваць сваё самабытнае народнае мастацтва вось хоць-бы апранаючы пры адпаведных нагодах сваю нацыянальную вопратку.

Сярод прысутных было некалькі асобаў із старое беларускае эміграцыі, было відаць па іх, што вечар ім вельмі спадабаўся.

І запраўды беларуская масьлянка удалася, праўда шмат папрацавалі некаторыя сяброўкі арганізацыі, папрацавалі ахвярна, але затое у пустую касу Згуртаваньня ўплыло 105 даляроў. Вельмі добры пачатак пасьля даўжэйшага застою ў працы арганізацыі.

**З. Ст.**

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЛЁНДАНСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

Ужо некалькі гадоў беларуская мова нараўні зь іншымі славянскімі мовамі ёсьць адным з прадметаў экзаменаў на Лёнданскім унівэрсытэце. Толькі аднак сёлета быў вызначаны Беларус экзамінатарам, бо дагэтуль быў ім Ангелец, які разумее пабеларуску і навучыўся беларускае мовы з кніжкі.

Цяпер на экзамінатара вызначаны а. др. Ч. Сіповіч, які ўжо апрацаваў экзамінацыйныя тэксты й якія ўжо зацьверджаны й надрукаваны Лёнданскім унівэрсытэтам.

### ЛУЧНАСЬЦЬ ЗЬ БЕБАРУСАМІ Ў ШВЭЦЫІ

Сёлета была думка сьвяткаваць нашае нацыянальнае сьвята супольна з прадстаўнікамі Беларусаў Швэцыі, якія меліся прыехаць у Лёндан. Нажаль гэтага праекту не ўдалося ажыцьцявіць, аднак лучнасьць між ЗБВБ і Беларусамі Швэцыі што раз цясьнейшая й ня выключана, што ў недалёкай будучыні сустрэнемся. Важным ёсьць таксама супрацоўніцтва із сп. Вало, мастаком, які знае Беларусь, і шмат твораў якога жыўцом адтварае беларускаё жыцьцё. Праектуецца зарганізаваць выстаўку мастацкіх твораў сп. Вало ў Лёндане.

**А. Д.**

### БЕЛАРУСКАЯ РАДЫЯПРАГРАМА З БАФАЛЁ

У нядзелю 22 сакавіка, а гадз. 5.15 пп. праз радыястанцыю з Бафалё ў Украінскай праграме М. Шарвана была далучаная 15-хвілінная беларуская радыяперадача ЗБК (зарганізаваў А. Маркевіч), прысьвечаная 41-ым угодкам Акту 25 Сакавіка, якая складалася з адумысловага камэнтару й песьняў: «Пагоня», «Марш Беларускіх Партызанаў», «Лявоніха», «Маю толькі шлях адзін» і Беларускага нацыянальнага гімну.

**А. — віч**

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**